# Наша Свабода

№46(133) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

7 ТРАЎНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК



Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ



*Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ віншуе сваіх чытачоў з Днём перамогі – ветэранаў вайны, хто са зброяй у руках набліжаў перамогу над фашызмам, тых, хто рабіў гэта ў тыле, і тых, хто перажыў гады акупацыі, а таксама іхніх дзяцей і ўнукаў, наогул усіх, хто ніколі не пацярпіць фашызму на беларускай зямлі.*



Дзіцячыя калектывы выступаюць на закрыцці Фестывалю духоўнай музыкі на пляцоўцы перад Чырвоным касцёлам у Мінску

## Сустрэчная бутафорыя

10 траўня ў Бараўлянах рыхтуюцца прыняць з рэвізорска-гасцёвым візітам Аляксандра Лукашэнку. Чакаецца, што ён, у прыватнасці, наведае будоўлю абласной дзіцячай клінікі, якая ўзводзіцца яшчэ з канца 80-ых гадоў.

Зараз тут засталося зрабіць унутранае аздабленне і паставіць вонкавыя вітражы, але клінічны даўгабуд вырашылі паказаць Лукашэнку нібыта амаль завершаным. Бутафорыя будзе нішто сабе: фарбавацца будуць менавіта тыя калідоры, па якіх мяркуецца таго вадзіць, ад месца, дзе спыніцца прэзідэнцкі картэж, да дзвярэй будынка часова пакладуць адмысловую плітку, каб Лукашэнка не ішоў па пяску. Але самае цікавае якраз з вітражамі. Іх яшчэ не паспелі ўсталяваць, таму відаць шэраг голых праёмаў у сценах. Каб пазбавіцца гэтых недарэчных «дзірак», было вырашана закласці іх цэглай, а таксама паставіць дзверы – нібыта гэтак і мае быць. Як Лукашэнка адгасцюецца ў Бараўлянах, кладку разбяруць, а замест яе паставяць належныя вітражы.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Польшча заахвочвае нашыя таленты

Першы Міжнародны вакальны фестываль маладых выканаўцаў імя Станіслава Манюшкі назваў сваіх лаўрэатаў у Брэсце. З 55 удзельнікаў у трох узроставых групах ад 9 да 21 года грашовыя прэміі і дыпломы ўручаныя 15 чалавекам. Берасцейцы Наташа Глінская, Ольга Комар, Ігар Іваноў, мінчукі Аксана Бондарава і Марына Тарчэўская запрошаныя яшчэ і на канцэртнае турнэ ў Польшчу.

Ухвальна, што Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце папулярызуе творчасць знакамітага ўраджэнца беларускай вёскі Убель (цяпер Чэрвеньскі раён) Станіслава Манюшкі. Нарэшце здольныя вакалісты не толькі са сталіцы і абласных цэнтраў, але і з Пінска, Баранавічаў, Драгічына і Навагрудка атрымалі ўнікальную магчымасць выступіць перад кваліфікаваным журы і атрымаць парады ад прафесараў музыкі Казіміра Гурскага, Леаніда Івашкова, Аліцыі Дэмбоўскай.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Адкрываецца чарговая FM-радыёстанцыя

9 траўня ў сталіцы на частаце 96,2 FM пачне вяшчаць новая радыёстанцыя. Яна будзе называцца «Мелодыі стагоддзя» і мець дэвіз «Музыка, выпрабаваная часам». Фармат новай радыёстанцыі досыць арыгінальны: тут будуць гучаць музычныя кампазіцыі, напісаныя выключна да 90-ых гадоў мінулага стагоддзя.

# Тревожные сигналы для Лукашенко из «Газпрома»

## *Москве не нужны посредники на пути в Европу*

Череда майских праздников как-то затмила некоторые события, происшедшие в Москве в конце апреля, которые могут существенно повлиять на положение правящего режима в Беларуси. Почти одновременно там состоялись заседания Совета директоров «Газпрома» и встреча представителей концерна «Газпром», немецких Ругаз и *Wintershall*, а также финской компании Fortun. Появилась информация, что два газовых гиганта договорились о строительстве газопровода через акваторию Балтийского моря. Проект получил название «Северо-Европейский газопровод». Созданной во время московской встречи его рабочей группе было поручено приступить к технико-экономическому обоснованию (ТЭО) и бизнес-плану будущего строительства. Очевидно, что этот проект поставит крест на другом, белорусском проекте «Газпрома», на который так надеялся А.Лукашенко.

Еще прошлой осенью были обнародованы планы строительства новой газпромовской ветки из России в Европу, в обход Украины. Они вызвали бурную реакцию. И если в Польше и Украине она была далеко не однозначной, то в Беларуси эти планы вызвали большие надежды. Сам факт, что могущественный «Газпром» и европейский консорциум четырех компаний предпочли Беларусь, по территории которой планируется прокладка новой ветки, было расценено правящим режимом как доверие и его признание Европой. Мол, режим Лукашенко способен гарантировать стабильность и безопасность. Стоит вспомнить, как, тогда одурев от своей значимости, официальный Минск стал демонстрировать жесткую, порою некорректную позицию в отношении Киева. Неоднократные критически-пренебрежительные заявления Александра Лукашенко и некоторых его помощников в адрес действующих украинских руководителей, а иногда и польских, нельзя было назвать дальновидными и расценивать как вклад в стабильность в регионе. Надо полагать, новый проект «Северо-Европейский газопровод» заметно охладил пыл Лукашенко, видимо, посчитавшего себя центром Европы.

*Окончание на стр.3*

# Памяць пра зніклых жыве

Два гады таму, 7 траўня 1999 года, у цэнтры Мінска непадалёк ад дома бясследна знік былы міністр унутраных справаў Юрый Захаранка. Менавіта гэтым знікненнем распачалася чорная паласа знікненняў палітычных апанентаў дзеючага рэжыму: менш як праз паўгода, 16 верасня, на выхадзе з лазні на Фабрычнай вуліцы былі выкрадзеныя віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га скліканння Віктар Ганчар і ягоны сябра-бізнесмен Анатоль Красоўскі, а 7 ліпеня ў аэрапорце «Мінск-2» згубіліся сляды тэлеаператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Таму нядзіўна, што беларуская апазіцыя надзвычай важнае значэнне прыдае менавіта знікненню Ю.Захаранкі, якое называецца «палітычным»: фарміруемы экс-міністрам «Саюз афіцэраў» ствараў сур'ёзную небяспеку для А.Лукашэнкі. Пра палітычны характар знікнення Ю.Захаранкі сведчыць і той факт, што ягоная жонка з дзецьмі пад уплывам пастаянных пагрозаў фізічнай расправы мусілі прасіць палітычны прытулак у Германіі – і атрымалі яго.

5 траўня група грамадскіх і палітычных дзеячаў: патэнцыяльны кандыдат у прэзідэнты Павел Казлоўскі, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканння Васіль Шлындзікаў, кіраўнік грамадскай камісіі па расследаванні абставінаў знікнення былога міністра Алег Волчак з журналістамі наведалі маці Юрыя Захаранкі, якая жыве ў вёсцы Васілевічы Гомельскай вобласці.

7 траўня, у гадавіну знікнення Ю.Захаранкі, Аб'яднаная грамадзянская партыя, адным з кіраўніком каторае быў былы міністр, на месцы знікнення – вуліцы Магілёўскай праводзіць пікет, каб яшчэ раз нагадаць грамадству пра прававы Чарнобыль на Беларусі. Акцыі да другой гадавіны знікнення Ю.Захаранкі пройдуць і ў 30 іншых рэгіёнах Беларусі.

7 траўня «Прававая дапамогу насельніцтву» з 17 гадзінаў распачынае пікетаванне пракуратуры краіны. Праваабаронцы на чале з Алегам Волчакам, які ўзначальвае грамадскую камісію па расследаванні абставінаў знікнення экс-міністра, будуць патрабаваць ад следчых справаздачы пра ход расследавання крымінальнай справы па факце знікнення Ю.Захаранкі. Адначасова, раздаючы апошні спецвыпуск НАШАЙ СВАБОДЫ ад 2 траўня, праваабаронцы хочуць нагадаць як работнікам пракуратуры, так і шырокай грамадскасці пра зніклых. А.Волчак заявіў, што «сітуацыя са знікненнем Захаранкі закансервавалася – як з нашага боку, так і з боку следства. Усе мы добра разумеем, што ход расследавання залежыць ад вынікаў прэзідэнцкіх выбараў». На ягоную думку, на гэты момант засталася толькі адна версія знікнення як Ю.Захаранкі, так і В.Ганчара, А.Красоўскага, Д.Завадскага – «палітычная».

**Рыгор БУЯН**

## Харчуем Маскву

Сёлета ў першым квартале ўзраслі харчовыя пастаўкі з Беларусі ў Маскву. Прыкладам, за тры месяцы ў расійскую сталіцу адпраўлена прыкладна 1.400 тонаў ялавічыны, 1.700 тонаў свініны, 500 тонаў сыру, 300 тонаў масла, 200 тонаў сухога малака.

## На БАТЭ зноў «залатая акцыя»

Урад увёў права «залатой акцыі» ў дачыненні да акцыянернага таварыства «Барысаўскі завод аўтатрактарнага электраабсталявання». «Залатая акцыя» (асобае права дзяржавы на ўдзел у кіраванні прадпрыемствам) уводзіцца на БАТЭ тэрмінам на тры гады. Паводле «залатой акцыі», дзяржава будзе ўмешвацца ў прыняцце акцыянерамі завода тых альбо іншых рашэнняў. Напрыклад, што тычыцца выбараў дырэктара.

## Малая падвышка малой дапамогі

Савет міністраў Беларусі зацвердзіў новыя памеры дапамогі, якая прадугледжваецца Законам аб сацыяльнай абароне пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС. З 781 да 1.237 рублёў павышаны памер штомесячнай даплаты работнікам тых рэгіёнаў Беларусі, дзе доза вонкавага выпраменьвання на працоўным месцы большая за 50 мікрарэнтген за гадзіну. Жыхары тэрыторыяў з перыядычным радыяцыйным кантролем будуць атрымліваць 636, з правам на адсяленне – 825, з правам на першачарговую эвакуацыю – 1.270 рублёў.

## Кангрэс моладзі

Улетку мае быць праведзены Кангрэс беларускай моладзі. Пра намеры яго правядзення заявіла Кааліцыя дэмакратычных маладзёжных арганізацыяў «Пераменаў!» Мэта – мабілізацыя моладзі на выбары. Хутчэй за ўсё кангрэс адбудзецца ў прамежак перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі паміж прадстаўленнем у Цэнтрвыбаркам падпісных лістоў кандыдатаў на прэзідэнта і іхняй афіцыйнай рэгістрацыяй.

## Надбаўкі лаяльным

У хуткім часе з'явіцца ўказ аб усталяванні персанальных надбавак у памеры да 30 тарыфных ставак першага разраду для дзеячаў культуры. Натуральна, лаяльных да Лукашэнкі. Выплачвацца яны будуць цягам аднаго года. Зараз узгадняюцца спісы выбраных.

**Наступны нумар газеты выйдзе ў пятніцу, 11 траўня**

**НАДВОР'Е**




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1360**

# Тревожные сигналы для Лукашенко из «Газпрома»

*Окончание. Начало на стр.1*

Ведь очевидно, что Путину просто не нужен посредник. Да и европейцев вполне устроил бы прямой контакт с «Газпромом», без посредников. Особенно капризных.

Стоит отметить, что, в отличие от белорусской ветки, проект через Балтийское море уже имеет предварительное ТЭО, которое разработала «Норд Трансгаз», дочерняя компания «Газпрома» и *Fortun*. Наблюдатели также отмечают, что реальные перспективы проект приобретает благодаря участию такой крупной компании, как Рургаз. А это в свою очередь делает более чем вероятным предоставление Европейским Союзом статуса «Трансевропейской сети». Со всеми вытекающими из него преференциями.

По некоторым данным, тревога в Минске возросла, когда стали известны результаты заседания Совета директоров «Газпрома». На нем порешили не принимать поправку в устав, позволяющую увольнять председателя правления только единогласным решением. Это сигнал, посланный всем инвесторам и заинтересованным лицам, что в «Газпроме» грядут перемены. Как известно, с 38 процентами акций, государство является главным акционером концерна. Он, как и европейские партнеры, намерен серьезно менять схему управления и работы газового монополиста. Этого не скрывает и председатель Совета директоров, он же и первый заместитель главы президентской администрации Дмитрий Медведев. Участники европейского газового рынка намерены серьезно увеличить поставки российского газа в Европу путем участия в строительстве дополнительных магистралей. Весьма важными для российской экономики являются и намерения европейцев увеличить свою долю в уставном капитале российского концерна.

А что же Беларусь? Ведь увеличение транзита российского газа через ее территорию обещало такие выгоды, которые бы существенно увеличили ресурс правящего режима. По оценкам экспертов, только оплата за транзит сделала бы российский газ фактически бесплатным для Беларуси. Этакая «туркменская мечта» для ее граждан. Предполагалось, что прибыль от этого транзита позволит значительно пополнить закрома всех мыслимых и немыслимых бюджетов режима.

В связи с обнародованными планами строительства газопровода через акваторию Балтийского моря обращает на себя внимание реакция официального Минска. Вернее, ее полное отсутствие. Время доверительных отношений с уходящим Ремом Вяхиревым, его дочерней «Итерой» и другими истекает. Правда, по мнению бывшего главы администрации и вице-премьера Леонида Синицына, уход Вяхирева не должен повлиять на отношения Лукашенко и «Газпрома». Как вроде бы не повлиял, к примеру, на его отношения с «Итерой», куда перебрался опальный бывший президентский завхоз Иван Титенков. Говорят, он таит обиду на Лукашенко до сих пор. Кстати, неожиданный после майских праздников визит в Минск главы «Итеры» Игоря Макарова, которого тут же принял Лукашенко, вполне можно рассматривать в контексте возникших тревог руководителя Беларуси. Обстоятельная беседа между ними прошла при плотно закрытых дверях. Тем не менее, из разных источников стала поступать любопытная информация. Так, например, некоторые осведомленные лица утверждают, что во время этой беседы якобы говорили и о Титенкове, который стал проявлять специфический интерес к некоторым потенциальным кандидатам в президенты. И, говорят те же источники, занимающийся в «Итере» поставками различных товаров в Ирак, бывший завхоз обладает весьма ценной информацией о своем бывшем шефе. Понятно, что в ней остро нуждаются соперники Лукашенко за президентское кресло. Впрочем, как и в финансовой поддержке.

Так что если скорый уход Вяхирева с поста главы «Газпрома», по мнению Синицына, не повлияет на положение Лукашенко, то планы строительства балтийской магистрали из России в Европу, замеченная активность Титенкова и некоторые другие обстоятельства, в значительной степени могут повлиять. Правящий режим личной власти в Беларуси все же воспринимается как источник нестабильности. Некоторые московские политологи предпочитают называть поведение Лукашенко просто экстравагантным. Но для весьма серьезных интересов, завязанных на столь грандиозные проекты по доставке российского газа в Европу, упомянутая экстравагантность нежелательна. Работавший после своей отставки в кремлевских структурах и тесно связанных с российским бизнесом, Синицын подтверждает нежелательность для Москвы столь экстравагантной фигуры. Примечательно, что по мере приближения возможных президентских выборов в Беларуси, Леонид Синицын становится все более радикальным оппонентом действующего главы государства. Отсюда и довольно неожиданный синицынский лозунг: «Лукашенко-это война!». При этом он поясняет, что атмосферу «войны» всех со всеми создает та абсолютистская политика, которую Лукашенко продолжает упорно проводить, невзирая на очевидные провалы в экономике и продолжающуюся его международную изоляцию. А объявленные планы транспортировки газа через Балтику нужно воспринимать как своего рода сигнал из Кремля не только Варшаве, пытающейся солидаризироваться с Киевом, но и белорусскому правителю. Очевидно, радикализм, исходящий от лица, тесно связанного с влиятельными кругами в Москве, должен заслуживать особого внимания. Похоже, пресловутое разграничение бизнеса и политики в данном белорусском варианте может иметь свои особенности, которые обычно связывают с самой личностью Лукашенко. Надо полагать, в Европе понимают, что такие грандиозные бизнес-планы, коими являются планы транспортировки российского газа, не могут стать заложниками белорусского субъективного фактора. Европейцы говорят, что им хватило одного Милошевича. В Москве не скрывают, что им тоже.

Помимо планов строительства газопровода в обход уже самой Беларуси, радикализма бывших соратников, в недалеком будущем к Лукашенко могут проявиться еще одни кремлевские чувства. Как-то так совпало, что во время войны с НТВ белорусское руководство решило помочь в этом деле «Газпрому». А Лукашенко — коллеге Путину. Дело в том, что в Беларуси государственная телерадиокомпания по законам является органом государственного управления. И ее руководство подотчетно лично Лукашенко. С февраля нынешнего года трансляция НТВ на Беларусь стала пиратским образом прерываться рекламой белорусского телевидения. Российская телекомпания подала на белорусскую в суд. Интересно, после того, как НТВ стало газпромовским, долго ли будет продолжаться белорусское пиратство? Может все и суд решит. А пока дождемся, как российские телеканалы и особенно газпромовском НТВ, покажут бенефис белорусской «пятерки» потенциальных кандидатов в президенты на российской арене. Он должен пройти в Москве с 11 по 13 мая. Его участники говорят, что это будет «круглый стол» на тему освещения в российских СМИ ситуации в Беларуси. Вроде бы, Лукашенко в это время должен быть дома. Так что сигналы по «союзному телевизору» дойдут быстро.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

## Праваабаронцы змагаюцца за існаванне

2 траўня заснавальнікі рэспубліканскай праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога грамадзянам» абскардзілі ў Вярхоўны суд Беларусі адмову міністэрства юстыцыі зарэгістраваць арганізацыю.

Устаноўчая канферэнцыя «Прававой дапамогі грамадзянам» прайшла ў Мінску 14 студзеня, а 9 лютага дакументы на рэгістрацыю былі пададзеныя ў мінюст. Арганізацыя «Прававая дапамога насельніцтву», якая мае статус мінскай гарадской, вырашыла пашырыць сваю дзейнасць на ўсю Беларусь, абвясціўшы галоўнай мэтай дзейнасці аказанне прававой дапамогі маламаёмасным грамадзянам краіны.

Аднак 2 красавіка міністр юстыцыі Генадзь Варанцоў адмовіў у рэгістрацыі «Прававой дапамогі грамадзянам». Такое рашэнне тлумачыцца досыць дзіўнымі прычынамі. Так, са спасылкай на юрыдычны энцыклапедычны слоўнік, міністр Г.Варанцоў заявіў, што «прававая дапамога – гэта дагаворы, якія заключаюць дзяржавы», а значыць, «ажыццяўленне прававой дапамогі не характэрнае для грамадскіх аб'яднанняў». Маўляў, такую дапамогу мусяць аказваць толькі адвакаты. Да заснавальнікаў арганізацыі вылучаны шэраг іншых прэтэнзіяў падобнага і, як лічаць праваабаронцы, неістотнага кшталту.

«Прававая дапамога грамадзянам» адразу ж заявіла пратэст падобным дзеянням мінюста, сцвярджаючы, што «яны носяць выключна палітычны характар». Юрысты «Прававой дапамогі насельніцтву», на базе якой ствараецца «Прававая дапамога грамадзянам», за тры гады існавання ўздзельнічалі больш чым у 120 судовых паседжаннях, дапамаглі больш за дзве тысячы грамадзянам. «Прававая дапамога насельніцтву» прымала найактыўны ўдзел у расследаванні трагедыі на Нямізе, дапамагала ахвярам сілавых структураў «Маршу Свабоды», які прайшоў у Мінску 17 кастрычніка 1999 года. А ўзначальвае «Прававу дапамогу насельніцтву» былы следчы Фрунзенскага РАУС Мінска Алег Волчак, які цягам двух гадоў узначальвае грамадскую камісію па расследаванні абставінаў знікнення былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі.

Прэзідэнт «Прававой дапамогі насельніцтву» Алег Волчак у інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ не адмаўляе наяўнасць тэхнічных хібаў у дакументах на рэгістрацыю, пададзеных у мінюст. Аднак, паводле А.Волчака, «прычыны ў адмове зарэгістраваць беспадстаўныя». «Сапраўды, тэхнічныя агрэхі былі, але яны не вартыя таго, каб на іх падставе адмовіць у рэгістрацыі. Тым болей, не даўшы магчымасці выправіць гэтыя агрэхі», — падкрэсліў прэзідэнт арганізацыі.

**Рыгор БУЯН**

## Свістапляска вакол выбараў

4 траўня рабочая група палаты №2 прыняла рашэнне рэкамендаваць кіраўніцтву палаты прызначыць прэзідэнцкія выбары на 9 верасня. Рабочая група падтрымала і праект пастановы, паводле якога мусіць быць створаная спецыяльная група па вызначэнні дакумента пасля яго прыняцця на сесіі палаты. Наступнае пленарнае паседжанне запланаванае на 16 траўня, аднак праект пастановы па гэтага часу мусіць быць папярэдне разгледжаны кіраўніцтвам – саветам палаты.

Трэба нагадаць, што «палатачнікі» даўно выбіліся з часовых рамак, у якіх, па дзеючым заканадаўстве, дата прэзідэнцкіх выбараў мусіла быць вызначаная 26 красавіка – гэта крайні тэрмін. І ўвогуле, прызначэнне даты прэзідэнцкіх выбараў нагадвае свістапляску: у якасці магчымай даты выбараў называліся і 2 верасня, цяпер – 9. Аднак ніякае пэўнасці, што выбары пройдуць менавіта 9 верасня, няма: напярэдадзе, 18 траўня, чакаецца псеўдабеларускі народны сход, і ягоныя вынікі непрадказальныя.

Уладзімір Навасяд, які ўваходзіць у рабочую групу, не мае ніякай упэўненасці, што прэзідэнцкія выбары пройдуць менавіта 9 верасня. «Пра гэта нельга сказаць упэўнена, бо ў нас гэтая дата – трэцяя ці нават чацвёртая. І нават савет палаты некалькі разоў адкладваў сваю працу па гэтым пытанні. Таму на сёння можна весці гаворку толькі пра тое, што рабочая група з 21 дэпутата выказала гэтую дату – 9 верасня, якая будзе разглядацца на савеце палаты».

Сапраўды, палата зробіць тое, што ёй загадае А.Лукашэнка. А ўся свістапляска вакол даты прэзідэнцкіх выбараў – не болей чым імітацыя актыўнасці «палатачнікаў».

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

# Хто ў нас багатыя?

## *Па Лукашэнку – усе, хто можа хадзіць, поўзаць, ездзіць*




На селектарнай нарадзе, якая агучвалася беларускім тэлебачаннем у прамым эфіры, прагучала некалькі новых прапановаў. На мой погляд, калі іх запатэнтаваць, то Беларусь можа разлічваць на нейкую міжнародную прэмію. Напрыклад, у жанры смеху. Але адну з гэтых прапановаў я не зусім зразумеў.

А.Лукашэнка выказаў пажаданне, каб усе багатыя людзі падтрымалі сельскую гаспадарку, і дадаў: «пожертвования со стороны всех, кто сегодня ходит, ползает, ездит на иномарках по стране». Слова «иномарка» азначае аўтамабіль, выраблены за мяжой, у іншай краіне. Тут у мяне ёкнула сэрца: няўжо за сем год праўлення Лукашэнка пабудаваў у Беларусі завод, які вырабляе легкавыя аўтамабілі?

Пра лёдовыя палацы чуў, пра «Славянскі базар», пра «Дажынкі» чуў, а пра новы аўтазавод нічога не ведаю. Параіўся са спецыялістамі. Кажуць, нічога такога ў нас няма, у нашай краіне ўсе легкавікі — «иномарки». Пры такім падыходзе кола багатых людзей значна пашыраецца. Цяпер нават уладальнік задрыпанага «Запарожца» павінен ахвяраваць на пасяўную кампанію.

Тысячы людзей, і я ў тым ліку, якія не маюць аўтамабіля, могуць злараднa думаць: так ім і трэба. Любяць катацца – няхай і санкі возяць. Хацелася горача падтрымаць «бацьку» за яго клопат пра народ. Яшчэ раз прачытаў гэтыя «ноу-хау» і тут спатыкнуўся. Аказваецца, ахвяраваць на сельскую гаспадарку павінны не толькі тыя, хто ездзіць, але і тыя, хто ходзіць, і нават тыя, хто поўзае. Адным словам, увесь народ.

Так яно фактычна і адбываецца. Безгаспадарчасць калгаснай сістэмы закладваецца ў сабекошт прадукцыі. У выніку наша прадукцыя каштуе даражэй, чым аналагічная на сусветным рынку.

Дэманстрацыя клопату пра народ патрабуе прадаваць сацыяльна значымыя прадукты ніжэй сабекошту. А розніцу дзяржава пакрывае калгасам крэдытамі, якія ніхто ніколі не вяртае. Іх перыядычна спісваюць. Спісаныя сродкі папаўняюць павышэннем афіцыйных і неафіцыйных падаткаў (ахвяраванняў), што зніжае заробкі працуючых. А заробкі ў сваю чаргу напрамую ўплываюць на ўзровень пенсіяў.

Вось такі калаварот. Ад яго ніхто не выйграе. Адзін Лукашэнка. Бо афіцыйная прапаганда раскручвае любое яго мерапрыемства як вялікі клопат аб народзе. На справе – пустая дэмагогія і палітычная трасканіна на селектарнай нарадзе.

**Яўген ЛУГІН**

**ЭКАНОМІКА**

## Внутренний государственный долг

Внутренний государственный долг Беларуси в первом квартале 2001 года, по предварительным данным, увеличился на 17,2 проц. и составил на 1 апреля 484,497 млрд. бел. руб. (около 365 млн. долл.). Причем это без учета кредитов, полученных субъектами хозяйствования под гарантии правительства. В марте внутренний госдолг вырос на 7,5 проц. Его увеличение произошло в результате превышения объемов размещения государственных краткосрочных облигаций над погашением. За март минфин Беларуси продал ГКО по номиналу на 63,907 млрд. бел. руб. (фактически получено 52,967 млрд. бел. руб.), в то время как погашение ранее размещенных выпусков составило 36,047 млрд. бел. руб.

## Поступления в бюджет в I квартале

По информации ГНК, за I квартал 2001 г. в бюджет поступило 1.129,8 млрд. ВУВ платежей (это 99,2% к плану), в том числе в республиканский — 585,5 млрд. ВУВ (96,0%) и местные — 544,3 млрд. ВУВ (или 103,0%), сообщает БДГ. Основными причинами невыполнения плана стали: снижение на 7% темпов роста промышленного производства по отношению к I кварталу прошлого года, рост числа убыточных предприятий (на 01.02.2000 г. они составляли 38,9%, на 01.02.2001 г. — 41,8%), рост товарообменных операций, рост остатков готовой продукции на складах и значительная дебиторская задолженность. Общая задолженность на начало апреля составила, по предварительным данным, 76.096,9 млн. ВУВ, или 1,3% по отношению к годовому плану доходов бюджета.

## Ставка не уменьшится

Об этом сообщил министр экономики Беларуси Владимир Шимов. Сейчас, как известно, предприятия-экспортеры обязаны продавать Национальному банку 30 процентов своей валютной выручки. Министр отметил, что снижение процентной ставки обязательной продажи валюты будет происходить по мере укрепления национальной валюты. По его словам, из-за льгот, предоставляемых предприятиям-экспортерам, реальная доза обязательной продажи валюты в январе-феврале составила порядка 25 процентов, или на 5 пунктов ниже установленного уровня.

**Андрей КАРПОВИЧ**

## Яшчэ адна вайна ў Еўропе?



*Заўтра, 8 траўня, прэм'ер-міністр Македоніі Любча Геаргіеўскі збіраецца прасіць парламент гэтай маленькай балканскай краіны аб увядзенні ваеннага становішча. Пра гэта паведаміла агенцтва Associated Press.*

У суботу ўвечары пайшло паседжанне Савета нацыянальнай бяспекі Македоніі, на якім прысутнічалі прэзідэнт краіны Барыс Трайкоўскі, прэм'ер-міністр Любча Геаргіеўскі, міністр унутраных справаў Доста Дзімоўскі, старшыня парламента Стаян Андаў і начальнік Генеральнага штаба генерал Ёван Андрэўскі. На паседжанні была абмеркаваная сітуацыя на поўначы краіны, дзе цяпер ідуць жорсткія баі паміж урадавымі войскамі і баевікамі-албанцамі. Албанцы прэтэндуюць на частку македонскай тэрыторыі.

Учора Л.Георгіеўскі выказаўся наконт увядзення ваеннага становішча. «Мы спачатку правядзем кансультацыі, а потым, па ўсёй верагоднасці, пойдзем на гэты крок», — заявіў прэм'ер-міністр. «На тэрыторыі Македоніі ідзе вайна. У тых, хто гэта робіць, ёсць мэта – адваяваць зямлю».

Любча Геаргіеўскі паведаміў, што ў аўторак збярэцца парламент, які па канстытуцыі мае права ўвядзення ваеннага становішча. Каб гэтае рашэнне было прынятае, за яго мусіць прагаласаваць больш за дзве трэціх чальцоў парламента, то бок не менш за 81 з 120 чалавек.

Тым часам, ужо некалькі дзён запар артылерыя македонскай арміі абстрэльвае вёскі непадалёк ад горада Куманава, каб выбіць адтуль албанскіх баевікоў. Учора да вёсак Слупчане і Вакшынцы, якія знаходзяцца пад кантролем албанцаў, скіравалася калона баявых машынаў і танкаў – усяго 20 адзінак тэхнікі.

Македонскі ўрад заяўляе, што ўдары наносяцца толькі па захопніках. Аднак мясцовае тэлебачанне паведаміла, што ў Вакшынцах ужо было забіта 6 сялянаў.

Бюро Вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў паведаміла, што за апошнія дні баёў не менш за тысячу македонцаў албанскага паходжання, што жылі на поўначы Македоніі, пакінулі свае дамы і рушылі на тэрыторыю суседняй Албаніі, ратуючыся ад вайны.

Македонская праблема абмяркоўвалася на нефармальнай сустрэчы міністраў замежных справаў Еўрапейскага Саюза ў Швецыі ў мінулую суботу. На ёй была выказаная занепакоенасць у сувязі з актывізацыяй баявых дзеянняў. Учора ў сталіцу Македоніі Скоп'е прыехаў для тэрміновых перамоваў сакратар Еўрасаюза па справах бяспекі Хаўер Салана, былы генеральны сакратар *NATO*. А сёння чакаецца прыезд і цяперашняга NATOўскага кіраўніка Джорджа Робертсана.

Дагэтуль лідэры дзяржаваў свету заяўлялі, што падтрымліваюць палітыку ўрада Македоніі, які адмаўляецца перамаўляць з паўстанцамі. Афіцыйны Скоп'е называе іх тэрарыстамі і заяўляе, што іхняя мэта – адрэзаць частку тэрыторыі краіны, каб стварыць там частку Вялікай Албаніі.

З гэтым не пагаджаюцца грамадзяне Македоніі албанскага паходжання. Яны скардзяцца, што з імі ў краіне абыходзяцца, як з людзьмі «другога гатунку», і патрабуюць зменаў у канстытуцыі і прадстаўлення албанскай нацыянальнай меншасці большых правоў.

Насельніцтва Македоніі складае каля 2 мільёнаў чалавек, з іх прыкладна трэцяя частка мае албанскае паходжанне.

**Барыс САЗАНОВІЧ**

# «Дом свабоды» падлічыў краіны з свабоднай прэсай

*Амерыканская няўрадавая арганізацыя Freedom House («Дом свабоды») днямі прадставіла справаздачу аб свабодзе прэсы ў свеце за 2000 год. Адзін з найгоршых паказчыкаў у гэтай галіне – у Беларусі.*

У прадмове адзначаецца, што ў 2000 годзе сітуацыя з свабодай прэсы значна палепшылася. Упершыню за апошнія 10 гадоў даследаванне паказала, што краінаў з цалкам свабоднай прэсай у свеце ажно 72; паменшылася колькасць краінаў з несвабоднымі СМІ – іх стала толькі 62.

*Freedom House* займаецца падрыхтоўкай справаздачаў аб свабодзе прэсы ў 187 краінах свету з 1979 года. Вось што арганізацыя напісала пра методыку, паводле якой яна вызначае пазіцыі кожнай краіны: «Наш першы пункт – гэта структура пастаўкі навінаў: законы і адміністратыўныя рашэнні і іхні ўплыў на змест навіновых медыя. У другую чаргу мы ацэньвалі ступень палітычнага ўплыву на змест навіновых выданняў. Палітычныя сілы, нават у самых дэмакратычных краінах, імкнуцца кіраваць навінамі. Аднак, дэмакратычная сістэма ставарае стрымкі і супрацьвагі, каб мінімізаваць дзяржаўны ўплыў на навіновыя сродкі масавай інфармацыі. У трэцюю чаргу, мы вывучалі эканамічны ўплыў на змест СМІ, уключаючы ціск на медыя рынкавай канкурэнцыі ў прыватным сектары і таксама залежнасць фінансавання ад палітычных і эканамічных інтарэсаў. Нарэшце, мы ацанілі інтэнсіўнасць рэпрэсіяў супраць журналістаў у кожнай асобнай краіне, уключаючы такія выпадкі, як фізічныя напады, цэнзура, арышт і іншыя захады ўздзеяння».

Інфармацыя пра падзеі ў кожнай з 187 краінаў бярэцца ад карэспандэнтаў у гэтых краінах, супрацоўнікаў *Freedom House*, якія ездзяць у камандзіроўкі, з іншых даследаванняў па правах чалавека, а таксама з мясцовых і міжнародных СМІ.



Камерунскі журналіст Піюс Нджаве. Яго арыштоўвалі 126 разоў, ягоны дом быў асаджаны салдатамі. Ён мусіў пакінуць сваю краіну, бо баяўся за жыццё жонкі.

Вось што паведамляе справаздача *Freedom House* пра Беларусь. «Дзяржаўныя СМІ падпарадкоўваюцца прэзідэнту,чыя адміністрацыя кантралюе рашэнні, што прымаюцца па змесце і па прызначэнні кіруючага рэдакцыйнага персаналу. Незалежныя электронныя медыя не існуюць. Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі забараняе СМІ ўзгадваць асацыяцыі і арганізацыі, незарэгістраваныя дзяржаўнымі органамі, і жорстка абмяжоўвае магчымасць прэсы крытыкаваць афіцыйных асобаў. Дзяржаўны камітэт па друку можа выдаваць папярэджанні выдаўцам за недазволеную дзейнасць – такую, як змена назвы выдання або распаўсюджанне яго за мяжой. Ён таксама можа закрываць выданні без рашэння суда. Апазіцыя не мае альбо мае вельмі малы доступ да дзяржаўных медыя. Пераслед і цэнзура незалежных друкаваных СМІ сталі звычайнымі. Часта праводзяцца праверкі ў рэдакцыях газетаў. 2000 год быў багаты на выпадкі ўціску. Шмат журналістаў было арыштавана, адзін журналіст-аператар знік у ліпені».

У выніку Беларусь атрымала 80 балаў *з 100 магчымых па шкале несвабоднасці СМІ*. Гэта вельмі шмат, больш набралі толькі некалькі краінаў. Прапануем вам рэйтынг самых несвабодных краінаў.

**Бірма (М'янма)** – 100 балаў з 100. Дзяржаўны савет па міру і развіцці ажыццяўляе поўны кантроль над усімі друкаванымі і электроннымі медыя шляхам заканадаўчых абмежаванняў і актыўных рэпрэсіяў. У студзені *Réporteurs Sans Frontières* паведамілі, што ўлады выпусцілі аднаго журналіста, арыштаванага ў 1996 годзе пасля апазіцыйнай дэманстрацыі, аднак яшчэ 12 журналістаў застаюцца за кратамі. У ліпені тры пазаштатныя карэспандэнты штомесячніка апазіцыі *MoJo*, які выходзіць у Тайландзе, былі арыштаваныя за збіранне і распаўсюджанне дэсідэнцкіх навінаў. У снежні апазіцыйны журналіст быў асуджаны да 21 года турмы за парушэнне законаў аб надзвычайным становішчы.



Журналіст Ціпу Султан з Бангладэш на аперацыйным стале. Яго збівалі жалезнымі прутамі, хакейнымі клюшкамі і бейсбольнымі бітамі.

**Ірак** – 100 балаў. Паводле закона ад 1986 года, знявага прэзідэнта або вышэйшых асобаў дзяржавы караецца смерцю. Акт аб прэсе 1968 года забараняе распаўсюджанне інфармацыі, шкоднай для прэзідэнта, Рэвалюцыйнага каманднага савета або партыі БААС. Сын Садама Хусейна Удэй ачольвае Іракскі саюз журналістаў. Сваёй уладай ён ужо пазбавіў працы сотні журналістаў, якія недастаткова хвалілі Садама. Замежныя радыё- і тэлестанцыі практычна не прымаюцца, спадарожнікавыя «талеркі», мадэмы і факсы забароненыя.

**Паўночная Карэя** – 100 балаў. Інфармацыя шчыльна кантралюецца дзяржавай. Грамадзяне могуць быць пасланыя на «калектыўныя працы» або пакараныя смерцю за крытыку рэжыму Кім Чэн Іра.

**Афганістан** – 95 балаў. У Афганістане толькі адно дзяржаўнае радыё, якое перадае выключна рэлігійныя праграмы або афіцыйную прапаганду. Друкаваныя СМІ, з якіх больш за 10 агульнанацыянальных, знаходзяцца пад поўным дзяржаўным кантролем. Фатографы знаходзяцца па-за законам, практычна не існуе тэлебачання. Афганцам забаронена карыстацца інтэрнэтам, аднак талібскі ўрад мае свой сайт у сусветнай павуціне, які заклікае ўвесь свет прызнаць рэжым руху «Талібан».

**Куба** – 94 балы. Антыдзяржаўная прапаганда і знявага афіцыйных асобаў караецца тэрмінам зняволення да 3 гадоў. Канстытуцыя забараняе прыватную ўласнасць на электронныя медыя. Некалькі незалежных журналістаў сутыкаюцца з суровымі рэпрэсіямі, у тым ліку – тэрмінамі зняволення, выкраданнямі, забаронамі на падарожжы, пераследам сям'і і сяброў, а таксама замахамі на жыццё.

**Саудаўская Аравія** – 92 балы. Крытыка ўрада, ісламу і правячай сям'і забароненая. Урад валодае ўсімі радыё- і тэлекампаніямі. Міністр інфармацыі мусіць зацвярджаць і можа звальняць усіх галоўных рэдактараў.

**Лівія** – 90 балаў. Законы сфармуляваныя такім чынам, што любая форма свабоды слова можа апынуцца па-за законам. Усе сродкі масавай інфармацыі дзяржаўныя або знаходзяцца пад дзяржаўным кантролем, аднак некаторая крытыка ўрада і ягоных дзеянняў адбываецца.

**Туркменістан** – 89 балаў. Дзяржава кантралюе ўсе радыё- і тэлекампаніі і фінансуе ўсе друкаваныя выданні. Крытыка ў бок прэзідэнта і ўрада недапушчальныя. Газеты перад публікацыяй цэнзуруюцца.

**Самалі** – 86 балаў. Адсутнасць дзейнага цэнтральнага ўрада і нацыянальнай канстытуцыі не дае магчымасці гарантаваць законным шляхам свабоду прэсы. У краіне ёсць дзве незалежныя газеты, адна ўрадавая і адзін незалежны англамоўны тыднёвік. Большасць самалійцаў, аднак, атрымліваюць інфармацыю з замежных радыё- і тэлеперадачаў. У студзені быў забіты адзін журналіст, які вёў рэпартаж з рынку ў Магадзіша. На працягу года некалькі журналістаў арыштоўваліся за свае матэрыялы.

**Судан** – 85 балаў. З 1997 года заканадаўства аб прэсе значна памякчэла, аднак журналісты працягваюць ужываць самацэнзуру, каб пазбегнуць пераследу, арышту і закрыцця газетаў. Незалежны журналіст Махамад Таха стаў аб'ектам замаху на жыццё пасля таго, як напісаў крытычны артыкул пра кіраўніка краіны. Нацыянальны савет па прэсе забараніў СМІ пісаць пра гэты выпадак.

**Узбекістан** – 84 балы. Незалежная прэса практычна не існуе. Усе газеты, апроч дзвюх, дзяржаўныя – перад публікацыяй навіновых артыкулаў іх неабходна зацвярджаць у Камітэце па кантролі за дзяржаўнымі сакрэтамі. Абедзве прыватныя газеты змяшчаюць збольшага рэкламу і не друкуюць навіны. У турме ўтрымліваюцца журналісты, абвінавачаныя ў недакладнай інфармацыі і сувязях з апазіцыяй.

**Дэмакратычная Рэспубліка Конга** – 83 балы. На працягу года было арыштавана не менш за 20 журналістаў, шмат іншых былі збітыя.

Наступная група краінаў увайшла ў адну «вагавую катэгорыю» разам з Беларуссю. Яны ўсе маюць па 80 балаў.

**Ангола**. У 1989 годзе тут была ўведзеная забарона на асвятленне вайны. Забарона дзейнічала і летась. Законапраект, прапанаваны ў верасні, прадугледжвае доўгія турэмныя зняволенні за публікацыю, перадрук або распаўсюджанне матэрыялаў, скіраваных супраць прэзідэнта, а таксама за цытаванне замежных крыніцаў, у якіх абвінавачваюцца ангольскія афіцыйныя асобы.

**Бурундзі**. Закон аб друку патрабуе папярэдняй цэнзуры выданняў. Журналісты займаюцца самацэнзурай, іх пераследуюць і арыштоўваюць.

**В'етнам**. Закон аб друку 1999 года абавязвае журналістаў аплачваць матэрыяльныя страты асобам і арганізацыям, чые інтарэсы былі закранутыя ў публікацыі – незалежна ад таго, былі прыведзеныя звесткі сапраўднымі або не. Усе сродкі інфармацыі належаць дзяржаве.

**Кітай**. Крытыка вышэйшага чынавенства і публікацыя меркаванняў, якія аспрэчваюць правільнасць дзеянняў кіруючай Камуністычнай партыі, забароненыя. Рэдактары могуць быць затрыманыя і накіраваныя на «ачыстку». У 2000 годзе былі закрытыя дзесяткі газетаў, у тым ліку 27 – толькі ў студзені, за «фабрыкацыю матэрыялаў» і за друк «палітычных памылак».

Для параўнання – сітуацыя ў суседніх з Беларуссю краінах.

**Латвія** – 24 балы. Закон аб сродках масавай інфармацыі патрабуе, каб не менш за 51% тэлевізійных перадачаў быў еўрапейскага паходжання, з іх не менш за 40% — на латышскай мове. Аднак гэтыя патрабаванні не заўсёды выконваюцца. Замежныя інвестыцыі не могуць перавышаць 20% у капітале электронных медыя. Прыватныя радыё- і тэлестанцыі вяшчаюць на рускай і латышскай мовах, газеты друкуюць шырокі спектр палітычных поглядаў. Аднак шмат якія выданні звычайна публікуюць чуткі і абвінавачванні як факты. Мала клапоцячыся пра іх фактычнае пацвярджэнне.

**Літва** – 20 балаў. У 1999 годзе парламент прыняў папраўку да закона аб СМІ, якая ўстанаўлівала максімальнае абмежаванне памеру кампенсацыі за паклёп. Крытыкі закона сцвярджаюць, што ён можа ініцыяваць «фрывольныя» судовыя працэсы і паставіць пад пагрозу свабоду прэсы і журналісцкія расследаванні. Тут існуе шырокі выбар прыватных газетаў, дзяржаўныя і прыватныя тэлеканалы і радыёстанцыі вяшчаюць на ўсю краіну.

**Польшча** – 19 балаў. Тут прытрымліваюцца канстытуцыйных гарантыяў свабоды прэсы... У Польшчы існуе вялікі выбар СМІ: прыкладна 5.000 перыядычных выданняў, 200 радыёстанцыяў і 9 тэлеканалаў.

**Украіна і Расія** набралі ажно па 60 балаў і лічацца краінамі з часткова свабоднай прэсай. Расія паплацілася сваёй рэпутацыяй за абмежаванне дзейнасці журналістаў на Каўказе і барацьбу Уладзіміра Пуціна з холдынгам «Медиа-МОСТ». А іміджу Украіны значна пашкодзіла знікненне незалежнага журналіста Георгія Гангадзэ.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




Паліцыя Зімбабве збіраецца аказаць супраціў журналісцкай дэманстрацыі.

# Кот Клаўдзіі Львоўны

## *Мышыная гісторыя*

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

***Большасць тых, хто жыў на свеце, жылі-былі мышамі...***
*З недапісанай казкі*

Мужа Клаўдзіі Львоўны звалі Артурам і ён быў катом. Не памаўзлівым мужыком — і катом, значыць, у нейкім там пераносным сэнсе, — а натуральным кацярам з усімі атрыбутамі. І з тымі, пра якія вы найперш падумалі, таксама.

«О-го-го!» — казала ў такіх выпадках Клаўдзія Львоўна, і сяброўкі паглядалі на яе Артура позіркамі хуткімі і хітрымі.

Нельга сказаць, што Клаўдзія Львоўна ўсё жыццё толькі і думала, як бы выйсці замуж за ката. Зусім не. Больш таго, яна ўжо ледзьве не пайшла за Стася Цянькоўскага. Стась пад гэта і катэдж на яе перапісаў, і рарытэтны «*Volkswagen-1300*» сонечна-жоўтага колеру ад немцаў прыкаціў, а тут прыходзіць да Клаўдзіі Львоўны таварышка яе даўняя, Каця Цімашук, і слухайце, што кажа: «Мне на работу на ўсё лета ў Іспанію, туды з катамі на ўсё лета не бяруць, дык ты майго Артура паглядзі». Клаўдзія Львоўна адказвае ёй, што не можа, бо замуж збіраецца. Каця спачатку давай на яе касавурыцца ды злавацца, маўляў, што за сяброўка такая, не можаш з катом на руках замуж схадзіць, а пасля раптам пракідвае:

— Дык ты за Артура і выходзь.

— Як гэта? — не зразумела Клаўдзія Львоўна. — За твайго ката?

— А чым ён горшы за твайго Стася? — слушна спыталася Каця. — Нічым не горшы, да таго ж яшчэ і кот...

І так яно ўсё неяк само па сабе і вырашылася.

Стась, канечне, здорава ўзнерваваўся. Думаў, праблемы з вяртаннем катэджа ці «Фольксвагена» ўзнікнуць, але Клаўдзія Львоўна адпісала назад і катэдж, і «Фольксваген», хоць Артур пярэчыў.

— Гэта ж не нашае, Артур, — прысароміла Клаўдзія Львоўна.

— І не ягонае! — катэгарычна адрэзаў Артур. — Стась твой, зладзюга, смятану вагонамі крадзе і за паўцаны ў Расею збывае.

— Які ён мой?.. І скуль ведаеш, што злодзей? — здзівілася Клаўдзія Львоўна. — Ён жа ў Кіраўніка Дзяржавы ва ўпраўленні справамі завіхаецца.

— Усё пра ўсіх ведаю, — таямніча прамовіў Артур. — На тое і кот. Аднойчы Кіраўнік Дзяржавы на сваім самалёце ў Сочы ледзь не разбіўся. Дык за тое, што не разбіўся, што жывы застаўся, Стась ногі яму цалаваў. «Правільна, што цалуеш, — пахваліў Кіраўнік Дзяржавы. — Калі б я загінуў, дык цябе за адну смятану да канца жыцця з турмы б не выпусцілі».

Клаўдзія Львоўна насцярожылася.

— Хіба каты ўсё і пра ўсіх ведаюць?

— Пра цябе не ўсё, — супакоіў яе Артур. — Ты для мяне таямніца, таму з табой і ажаніўся, хоць не надта хацеў.

Пачуўшы такое прызнанне, Клаўдзія Львоўна надумала па-жаночаму ўскрыўдавацца, але трохі разважыла і перадумала, крыўду адкінула, бо ад пачатку дамовілася з Артурам, што казаць адно праўду.

А дамоўленасць з катом — гэта не тое, што дамоўленасць з чалавекам, калі дамаўляюцца пра адно, думаюць пра другое, а робяць трэцяе і зусім іншае.

— Ён нейкі па-звярынаму шчыры, — заўважыла, як першую праблему ў новым сямейным жыцці, маці Клаўдзіі Львоўны, якой Артур намякнуў, што нездарма людзі кажуць: калі хочаш ведаць, якую займееш жонку, прыглядзься ўважліва да будучай цешчы. «Шкада, — сказаў Артур цешчы, — што перш, як ажаніцца, не меў магчымасці на вас хоць зірнуць. Дальбог, дзевяноста дзевяць».

— Чаму дзевяноста дзевяць? — не зразумела цешча.

— Да ста лічыць не ўмею, — насмешліва і нават нахабнавата дазволіў сабе аджартавацца Артур.

— Ай ды малайчына! — у захапленні ўскінуўся з канапы Леў Міронавіч, бацька Клаўдзіі Львоўны, якому жыць з яе маці даўно абрыдла, але паколькі між імі таксама была дамоўленасць, што казаць яны адно аднаму будуць толькі праўду, дык ён і казаў, што толькі адну-адзіную яе кахаў і кахае. — Во гэта кот! Усім катам кот

Леў Міронавіч і Артур адразу пасябравалі, за што адразу і выпілі: адзін — каньячку, а другі — валяр'яначкі.

Артур, які Льва Міронавіча трошкі пабойваўся, бо ў таго на насценным дыване над канапай вісела імянная зброя, пасля першага кілішка расслабіўся:

— У Клавы іншым разам пытаюцца: а чаму гэта ў цябе кот у мужыках? Дык я вучу яе ў адказ пытаца: а ў прэзідэнтах у нас хто? А хто ў нас ва ўрадзе? А хто ў нас...

— Шакалы! — шалеў Леў Міронавіч. — Свінні! Пацукі з мышамі!.. — І ўсё ўскокваў з канапы — і то хапаўся за зброю, то падліваў сабе каньячку, а Артур падліваў сабе.

Урэшце, падліваючы напоі і ўжо зусім па-бацькоўску пазіраючы на расслабленага і праўдзівага Артура, Леў Міронавіч сам расслабіўся і даверліва прызнаўся кату, што быў некалі першы сакратар.

— Дык вы ж загінулі, — засумняваўся Артур, які ўсё і пра ўсіх ведаў. — Вам жа маскоўскія кадэбэшнікі аўтакатастрофу падстроілі, бо вы ў Крэмль мецілі.

— У Крэмль меціць небяспечна, — прайшоўшы да партрэта Кіраўніка Дзяржавы, які вісеў на пачэсным месцы, у кухні над газавай плітой, і задуменна пабарабаніў пальцам.

— Ён, па-мойму, перадумаў, — сказаў Артур. — Але вы як выкруціліся?

Леў Міронавіч вярнуўся на канапу, наліў каньяку, узяў скрылік лімона і выціснуў з яго ў чарку зярнятка, якое плаўна патанула.

— Так вось і выкруціўся... Лёг на дно.

— Не, ну, Леў Міронавіч!.. — нібыта нават трохі закапрызнічаў, як свой у сям'і, Артур.

— А мае хлопцы-партызаны мяне папярэдзілі — і мы падсунулі для аўтакатастрофы двайніка! — паціраючы рукі над кілішкам з каньяком з патанулым зярняткам, шчасліва рассмяяўся Леў Міронавіч. — Рэцыдывіста, якога і так бы расстралялі, дык ён хоць пад скон захацеў паслужыць радзіме. Яго са славай пахавалі — і такое ў мяне слаўнае жыццё пачалося! Нават не думаў, што без улады так хараша.

— Ну і ну! — выпіў валяр'янкі і выцер вусы Артур. — Я тады зусім кацяня быў — і то, помню, плакаў... Каб толькі пачуць такое, варта было, скажу я вам, з вашаю Клаваю ажаніцца.

— Агентура, — незразумела што і да чаго шэптам сказаў Леў Міронавіч і даліў Артуру валяр'янкі. — Ты ад мяне яшчэ не тое пачуеш... Вось ведаеш ты, што цяперашні наш Кіраўнік Дзяржавы таксама двайнік?

— Э, — адмахнуўшыся лапай, не даў веры Артур. — Такога падмяніць — што ката на сабаку, адразу б заўважылі.

— А тут так хітра ўсё змайстравана, што не кожны заўважыць, — паказытаў яго, як неразумнае кацяня малое, Леў Міронавіч. — Словы казаць адзін чалавек, а справу рабіць — другі. Ды гаворыць ён, а ўсё наадварот робіць іншы. Таму, калі ён кажа пра дабрабыт, дык чакай галечы. А паколькі пра галечу ён не кажа, дык дабрабыту і не чакай. Ты прыглядзься ўважліва да ўсяго гэтага, прынюхайся. Прылавіся.

І пачаў Артур прыглядацца, прынюхвацца, аднак нічога такога, пра што казаў Леў Міронавіч, не заўважаў, а прылавіцца як след ніяк не ўдавалася, бо надта ж далёкім, высокім, недасяжным быў той сам-Кіраўнік, ці то ягоны двайнік. Ды яшчэ і ахоўнікаў вакол яго віравала столькі, што куды там кату — мышы не прашмыгнуць. Аднойчы ў лядовым палацы, дзе Кіраўнік клюшку зламаў, Артур да яго з новай клюшкаю кінуўся. Дык ахоўнік схапіў за хвост — і аб лёд галавой! А Кіраўнік ката на клюшку — і ў вароты, як тую шайбу!

І пяць тысяч адных ахоўнікаў, бо нікога болей у палац не ўпускалі, як заравуць у адно горла: «Го-о-л!» — і суддзя свіснуў і крычыць: «Го-о-л!» — і свісток ягоны пішчыць: «Го-о-л!..» Ледзьве пасля ўсяго гэтага Артур ачомаўся. Плюнуць ужо хацеў і на таго Кіраўніка, і на ягонага двайніка, але быў, па-першае, катом на дзіва ўпартым, а па-другое, падвярнуўся і дапамог, як заўсёды, выпадак.

Клаўдзія Львоўна, калі гэтак яе, па бацьку, называць, дык, можа, і ўяўляецца некаму старой пацучыхай, з якой хіба што толькі кот і ажэніцца. Але калі Клаўдзію Львоўну называць Клавай ці Клаванькай, дык ёй дваццаць два гады — і яна адначасова і мадэлька, і спявачка, і танцорка, ды й наогул яна ў ліку першых нашых прыгажунь, калі не найлепшая з іх. А інакш за што б Стась Цянькоўскі, які капейчыну нікому каля царквы не падасць, яшчэ да вяселля ёй катэдж дараваў.

А ў Дзяржаве якраз СЧЗК — Свята Чарговай Змены Канстытуцыі. Кіраўнік Дзяржавы, якога скарочана КДБ завуць, бо назва Дзяржавы на *Б* пачынаецца, Канстытуцыю змяняе, паўнамоцтвы свае доўжыць — і далей кіруе. Таму што няма ў Дзяржаве нікога іншага, хто б мог пакіраваць. І народ, натуральна, шчасце сваё разумее і з гэтай нагоды гуляе, не кажучы ўжо пра ўрад і парламент. Праз тое пры кожнай змене Канстытуцыі ў ягоную рэзідэнцыю запрашаюцца лепшыя з лепшых, каб віншавальныя тосты прамаўляць, спяваць, скакаць і, хто чым можа, КДБ адорваць.

За тое, каб адзначыцца на Свяце Чарговай Змены Канстытуцыі ў рэзідэнцыі Кіраўніка, сярод лепшых з лепшых вяліся нечалавечыя бойкі, усчыналася звярыная грызня, і Клаўдзія ніколі ў бойкі тыя не лезла, бо на падмогу не мела ніякіх спадзяванняў. Але гэтым разам распарадчыкам на свяце, ці, калі заўгодна, цырымоніймайстрам, аказаўся Стась Цянькоўскі, які падараваў Клаўдзіі Львоўне запрашэнне на СЧЗК.

— А падарунак для яго ты ўжо з-пад кацінага хваста вытрасай, — сказаў Стась груба і так вульгарна, што Клаўдзія Львоўна нават замаркоцілася.

— Ты чаго сумуеш? — пацікавіўся Артур, і калі Клаўдзія Львоўна распавяла пра грубасць і вульгарнасць цырымоніймайстра, Артур падумаў, прынюхаўся і падзяліўся думкай:

— А чым я не падарунак? Я, канечне, не сіямскі і не ангорскі, звычайны кот з сярэднім хвастом сярэдняй пушыстасці, але ж валяр'янку з кілішка п'ю і лапу на лапу закідваю... Ды й сказаць што-небудзь пры выпадку не праміну, і ўмею выгляд зрабіць задуменны... Каты наогул на філосафаў падобныя.

— Ты ж мне муж, як я цябе падарыць магу? — яшчэ болей замаркоцілася з такога глупства Клаўдзія Львоўна, але Артур нагадаў ёй казку пра Ката ў ботах, якога ўсё дарылі, а ён усё да гаспадара вяртаўся, і да Клаўдзіі Львоўны ўрэшце дайшло, што гэткім мудрым катом калі і ахвяраваць, прынесці яго некаму ў падарунак, дык толькі Кіраўніку на карысць Дзяржаве. — Давай паглядзім, куды ўпакаваць цябе, — прымерылася яна, як краўчыха

Палазілі, пашукалі, знайшлі пад канапай пыльны, яшчэ ад першых прэзідэнцкіх выбараў, мяшок — у яго Артур і скочыў. А Клаўдзія Львоўна завязала.

— Зялёнай яшчэ давяжы, — сказаў Артур з мяшка. — Раптам мяне над рэзідэнцыяй падымуць.

— Ты і праз мяшок бачыш? — адрэзала зялёную стужку ад сцяга Рэспублікі Ічкерыя Клаўдзія Львоўна. З гэтым сцягам Артур бегаў на ўсялякія шэсці, мітынгі ды пікеты, і праз тое Клаўдзія Львоўна аднойчы нават западозрыла, што ён чачэнец.

— Я скрозь усё бачу, — адказаў Артур. — На тое і кот. Калі самалёт Кіраўніка Дзяржавы над Югаславіяй ледзь не збілі, бо на ім сцяг з зялёнай стужкай намаляваны быў, дык Стась Цянькоўскі плакаў з таго, што яго не збілі. «Правільна плачаш», — пахваліў Кіраўнік Дзяржавы.

— Цяжкі ты які! — усцягваючы мяшок на плечы, пажалілася Клаўдзія Львоўна. — А нібыта і есці ў Дзяржаве няма чаго.

— Каты, калі есці няма чаго, мышэй ядуць, — перакуліўся на бок Артур, каб не муляцца з Клаўдзіяй Львоўнай спінай аб спіну...

— Што ў вас у мяшку? — спыталіся ахоўнікі пры ўваходзе ў рэзідэнцыю.

— Кот, — адказала Клаўдзія Львоўна.

— Які яшчэ кот? — сурова перапыталі ахоўнікі. — А ну паказаць!

Клаўдзія Львоўна развязала мяшок, Артур стаў на заднія лапы і пакланіўся ахоўнікам,



прыціснуўшы правую пярэднюю лапу да сэрца.

— Не наш нейкі, хоць і надта на некага з нашых падобны, — засумняваўся адзін з ахоўнікаў, нервова перакінуўшы аўтамат з рукі ў руку.

— Ды наш, наш! — супакоіў яго другі ахоўнік, віхлясты з выгляду і блазнаваты. — Я ведаю яго, з ім Кіраўнік Дзяржавы ў хакей гуляў. Прапускай давай!

— Дык, можа, без мяшка? — паспрабаваў хоць у нечым настаяць на сваім першы ахоўнік.

— Можна і без мяшка, — згадзіўся, пакасіўшыся на аўтамат, Артур, склаў мяшок, сунуў яго пад паху, а вольнай лапай узяў пад руку Клаўдзію Львоўну.

Натоўп дараносцаў, альбо дураносцаў, Бог ведае, як іх назваць, расцякаўся ў чатыры чаргі праз усю банкетную залу, у праціглым канцы якой — пад сваім партрэтам ва ўсю сцяну — стаяў Кіраўнік Дзяржавы і, абыякава адсоўваючы ўбок падарункі, слухаў, як і хто яму спявае.

У цэнтры залы круціўся Стась Цянькоўскі. Убачыўшы Клаўдзію Львоўну на пару з Артурам, кінуўся да іх.

— Ты як яго правяла, я ж табе адной спецыяльнае запрашэнне перадаў? — адвісла сківіца ў Стася.

— Я адна і ёсць, — сказала Клаўдзія Львоўна. — А гэта мой падарунак з-пад кацінага хваста.

— Арыгінальна, — ацаніў Стась. — У нас тут конкурс на лепшы падарунак, дык можаш яго выйграць. — І раўніва ўгледзеўся ў Артура: — Не ангорскі, не сіямскі... Звычайны кот з вуліцы.

Калі падсунуліся яны ў чарзе пад велізарную люстру ў сярэдзіне залы, з люстры раптам спрытней за ката скочыў Леў Міронавіч з імяннай зброяй у руках, і чамусьці і на зброю ягоную, і на яго самога ўсім было начхаць.

— Шакалы, свінні, пацукі з мышамі — і скрозь агентура... — зашаптаў Артуру на вуха былы першы сакратар цэнтральнага камітэта партыі. — Прынюхайся як след, я сам не магу разабрацца, двайнік сёння тут ці не.

— Разбяруся, — паабяцаў Артур. — А калі двайнік, дык што?

Леў Міронавіч задумаўся на імгненне і па-заліхвацку, як каўбой, крутнуў на пальцы пісталет.

— Бі, чым папала, і крычы пра нацыянальную здраду. Што яны табе, кату, зробяць? А мы скруцім яго, мае партызаны нагатове. Толькі б люстра не ляснулася, — заклапочана паглядзеў ён пад столь. — Але яна яшчэ ў мае часы вешалася, павінна вытрымаць.

На люстры, абляпіўшы яе, як шышкі яліну, сядзелі і смалілі самакруткі партызаны — усе ўзброеныя навенькімі аўтаматамі Калашнікава.

— У Стася Цянькоўскага купілі, — перахапіў Леў Міронавіч здзіўлены позірк Артура. — Ён бацьку роднага прадасць, такая гніда.

— Дык гэта ж дзяржаўны пераварот, — насцярожана выказаў свае меркаванне Артур, які падобнага развіцця падзей ніяк не прадбачыў.

— А што рабіць застаецца? — развёў узброенымі рукамі Леў Міронавіч. — Я і рэкі з азёрамі асушаў, і старыя вуліцы з храмамі рушыў, і мову родную карчаваў, а пра мяне ў школах расказваюць, які я легендарны герой і слаўны сын свайго народа. Ды яшчэ помнік мне ставіць збіраюцца!

— Ну, не ведаю, — пачухаў за вухам Артур. — Калі кот мышэй не ловіць, а пра яго ў школах байкі баяць, дык што ў тым для ката кепскага?

— Каты не людзі — і не маюць партыйнай прынцыповасці! — прыставіў яму пісталет да вуха Леў Міронавіч, і Артур вымушаны быў згадзіцца.

Чэргі дураносцаў хоць і былі даўжэзнымі, як у спусцелых пры КДБ крамах, але рухаліся даволі хутка, бо ўсе і спявалі адно і тое ж, і скакалі прыблізна аднолькава. Кіраўніка Дзяржавы гэткая адсутнасць фантазіі стамляла і раздражняла, ён нецярпліва махаў рукой, чаргова дураносцаў перапынялі, налівалі яму чарку, давалі скварку — і выпраўлялі за дзверы. Калі ж Кіраўнік Дзяржавы кінуў вокам на залу і заўважыў у самым канцы самай апошняй чаргі Клаўдзію Львоўну, дык наогул пагнаў дураносцаў строем па чацвёра ў шэраг: на чатырох адна чарка, на чатырох адна скварка — і за дзверы, на чатырох чарка, на чатырох скварка — і за дзверы... Незнаёмая прыгажуня з катом яго відавочна прывабіла.

Нечакана кінула работу ў Іспаніі, невядома як з'явілася ў банкетнай зале і стала ў чарзе за Клаўдзіяй Львоўнай з Артурам тая самая Каця Цімашук, якая для Клаўдзіі Львоўны была сяброўкай, а для Артура — гаспадыняй.

— Ставай паперадзе, — прапанавала ёй Клаўдзія Львоўна. — Ці ўсе разам давай пастаім. Чаго ты ззаду туляешся?

*Заканчэнне на стар.7*

# Знявага Багдановіча

*На жаль, даводзіцца казаць пра тое, што за рэжымам Лукашэнкі да ручкі даведзены яшчэ адзін культурніцкі аб'ект. Чарговай «ахвярай» стаў філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка». Прычым ад вырашэння ейных праблемаў улады, у прыватнасці, міністэрства культуры, недарэчна ўхіляюцца.*

Будынак, дзе зараз месціцца філіял музея Багдановіча, мае стогадовы ўзрост. Гэты дом, стаяўшы на тагачаснай вуліцы Малая Георгіеўская (потым – Талстога), вядомы з 1904 года і належаў настаўніку вучэльні Лібава-Роменскай чыгункі Саву Рэдзьку. З 1914 года адрас гэтай хаціны звязаны з беларускім нацыянальным рухам. Тут знаходзілася Таварыства помачы ахвярам вайны, пазней частку дома здымаў Змітрок Бядуля. Аднак, бадай, самае значнае ў гісторыі гэтага дома тое, што з верасня 1916 года цягам амаль паўгода да Бядулі падсяліўся Максім Багдановіч, які тады вярнуўся ў Мінск. Менавіта ў пакоі будынка па Малой Георгіеўскай паэт напісаў свае вядомыя творы – баладу «Страцім-лебедзь» і стаўшы адным з нефармальных беларускіх гімнавых тэкстаў верш «Пагоня». І менавіта тут Багдановіч пражыў свае апошнія дні на радзіме, адсюль ён выправіўся папраўляць здароўе ў Ялту, дзе і памёр.

Філіялам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча гэты вытрымаўшы тры вайны драўляны дамок стаў толькі ў 1991 годзе (дагэтуль ён быў звычайным жытловым будынкам, дзе жылі адразу некалькі сем'яў). Дарэчы, дом перажыў не толькі бамбардзіроўкі, але і рэканструкцыю напачатку 80-ых гадоў мінулага стагоддзя вуліцы Талстога (колішняй Малой Георгіеўскай), калі мусіў бы быць знесеным. Аднак тады інтэлігенцыя адстаяла адзінае ацалелае ў Мінску месца, памятаючае прысутнасць Багдановіча. У выніку хата была пасунута на сотню метраў з вуліцы Талстога на Рабкораўскую, дзе яна і стаіць да цяперашняе пары ўжо ў якасці філіяла Багдановічава музея. Усяго за дзесяцігоддзе існавання «Беларускую хатку» наведала 100.000 чалавек. Хоць вядомая яна не толькі як музейная ўстанова. Гэта быў сапраўдны культурна-асветніцкі асяродак, дзе стала ладзіліся разнастайныя паэтычныя і музычныя вечарыны, а таксама дзеіла батлейка. «Беларуская хатка» напрыканцы мінулага стагоддзя працягвала традыцыі аднайменнага беларускага грамадска-палітычнага клуба, які існаваў у Мінску з 1916 па 1921 гады.

Аднак ад пачатку 2001 года вось ужо некалькі месяцаў «Беларуская хатка» зачыненая, а частка экспанатаў нават вывезеная адсюль. Аварыйны стан дамка вымагае неадкладнага капітальнага рамонту і з-за зацягвання яго правядзення становіцца ўсё жудасней з кожным днём. Размешчаны на тле гмахаў Універсітэта культуры і Акадэміі кіравання пры прэзідэнце, музей выглядае такім чынам, што яшчэ трохі – і можна будзе казаць пра тое, што ён псуе навакольны краявід.

Яшчэ напярэдадні лютаўскай нарады А.Лукашэнкі з прадстаўнікамі інтэлігенцыі па вырашэнні праблемаў культуры ў «Беларускай хатцы» за няплату камунальных паслугаў адключылі ацяпленне. У выніку лопнуў водаправод, а пасля апошніх дажджоў пачала працякаць столь. Перыядычна адключаюцца тэлефоны, а наогул камунальная запазычанасць сягае амаль тысячы долараў.

Наведвальнікаў нельга сюды пускаць, без перабольшвання, хоць бы з прычынаў элементарнай пажарнай і санітарнай бяспекі. На ўсе звароты дырэктара «Беларускай хаткі» Эдуарда Акуліна да мінкульта па грошы (трэба каля 3 тысячаў долараў) на ўнутраны і вонкавы рамонт, а таксама на добраўпарадкаванне прылеглай да музея тэрыторыі пакуль што там альбо адказваюць зацятым маўчаннем, альбо кормяць абяцаннямі. Тым часам супрацоўнікі музея робяць што могуць сваімі рукамі. Э.Акулін распавядае, што паваленны музейны плот, напрыклад, ён падымае сам з сынам.

У гэтую сітуацыю дадае прыкрасці тое, што сёлета «Беларускай хатцы» спаўняецца 10 гадоў, а ў снежні будзе адзначацца 110-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. А над філіялам ягонага літаратурнага музея стаіць рэальная пагроза занядбання і знішчэння. Улады рыхтуюцца з гэтай нагоды правесці ў Ракуцёўшчыне адмысловыя ўрачыстасці ў выглядзе свята песні і паэзіі. Эдуард Акулін кажа, што гэта будуць пампезна-паказныя мерапрыемствы, а па сутнасці «баляваннем падчас чумы». І не толькі памятаючы пра стан, у якім апынулася «Беларуская хатка». У тым жа ракуцёўшчынскім маёнтку таксама хутчэй за ўсё зробяць хіба што касметычны рамонт, бо грошай на ягонае ўпарадкаванне выдаткавана небагата.

У такіх умовах Э.Акулін зноў прыгадаў ідэю пераносу магілы Багдановіча з Ялты на Беларусь: «Куды вяртаць, у якую краіну? Пры гэтай уладзе, калі зневажаюцца нацыянальныя сімвалы?»

**P.S.** Між тым, днямі сітуацыя вакол філіяла Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка» ператварылася яшчэ ў больш аварыйную: заявы на звальненне падалі дырэктар музея разам з усімі астатнімі супрацоўнікамі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



# Будзе пенсійная рэформа




*Як заявіла на прэс-канферэнцыі міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель, Беларусь чакае рэфармаванне пенсійнай сістэмы. На яе погляд, наша сістэма пенсійнага забеспячэння не такая ўжо і кепская, і яе дастаткова толькі крыху падкарэктаваць. У «палату» ужо перададзены праект закона «Аб асновах пенсійнай сістэмы».*

Дарэчы, сярод іншага ён прадугледжвае перавод з сістэмы дзяржаўнага сацыяльнага страхавання пенсіяў за працу ў спецыяльных умовах і за выслугу гадоў да сістэмы дадатковага абавязковага страхавання, у выніку чаго плацельшчыкам гэтых пенсіяў будзе выступаць не дзяржава, а страхавыя арганізацыі. Акрамя таго, касуецца права на датэрміновы выхад на пенсію тых, хто працуе ў неспрыяльных для здароўя ўмовах. Прафсаюзы ўжо выказалі сваю незадаволенасць гэтымі мажлівымі нормамі. Напрыклад, яны апасаюцца, што дзяржава, калі не будзе ажыццяўляць выплаты па пенсіях, паменшыць нагляд за абаронай працы.

Што да іншых прафсаюзных турботаў, то гаворкі пра стварэнне пенсійнай накапляльнай сістэмы на ўзор Расіі не ідзе, бо пры такіх узроўнях інфляцыі, па словах В.Даргель, небяспечна рабіць грашовыя ўклады.

А пакуль што ў траўні плануецца правесці пераразлік пенсіяў для ўсіх катэгорыяў грамадзянаў. На сённяшні дзень мінімальная пенсія складае 22.474 рублі (яе атрымліваюць каля 200 тысячаў чалавек), максімальная – 64.938 рублёў, а сярэдняя трымаецца на ўзроўні 41.762 рублі, што складае толькі 45,9% адносна сярэдняй заработнай платы. Для выплаты пенсіяў за травень маецца толькі палова неабходных сродкаў. Справа ў тым, што запазычанасць прадпрыемстваў перад фондам сацыяльнай абароны зараз складае каля 20 мільярдаў рублёў. Што тычыцца ўдзельнікаў і інвалідаў вайны, якіх зараз налічваецца 130 тысяч чалавек, то ім на дадатковую грашовую дапамогу перад святам Перамогі спадзявацца не выпадае.

В.Даргель таксама нагадала, што з 1 студзеня ўведзеная адрасная сацыяльная дапамога некаторым катэгорыям грамадзянаў, у якіх сукупны сярэдні даход на чалавека ў сям'і меней за бюджэт пражытковага мінімуму (прыкладна 19.000 рублёў). Ім даплачваецца сума, якой не хапае да 19.000 рублёў. Гэтая дапамога ахоплівае толькі 11% усіх малазабяспечаных сем'яў па краіне.

А вось праграма «Дзеці Беларусі» не выконваецца. Колькасць захворванняў дзяцей за апошнія 10 гадоў узрасла на 35%, колькасць дзяцей-інвалідаў складае 29,5 тысячаў. Колькасць дзетак-сіротаў у параўнанні з 1990 годам павялічылася ў 2,6 раза і зараз складае 30 тысяч сіротаў. Штогод 500 мацярок адмаўляюцца ад сваіх дзяцей, а 8 тысяч немаўлят нараджаюцца па-за шлюбам.

**Алена ЛАБАНАВА**

**АКЦЫІ**

## Паралельнага сходу ўлада не хоча

Актывісты КХП-БНФ Сяргей Папкоў і Валерый Буйвал накіравалі ў гарвыканкам заяўку на правядзенне ў Мінску 18 мая з 8 гадзін раніцы да 8 вечара на Кастрычніцкай плошчы сходу грамадзян з колькасцю ўдзельнікаў да 5 тысяч. Мэта сходу – давесці да міжнароднай грамадскасці наступнае: «грамадзяне Беларусі не прызнаюць ніякай «саюзнай дзяржавы» і «ў адпаведнасці з Канстытуцыяй будуць абараняць незалежнасць краіны»; «грамадзяне Беларусі не прызнаюць змены Канстытуцыі краіны незаконнымі метадамі».

4 мая заяўнікі былі выкліканы ў аддзел па сувязях з грамадскасцю ГУУС Мінгарвыканкама. Ад імя кіраўніцтва ГУУС ім было перададзена: усе, хто 18 мая прыйдзе на Кастрычніцкую плошчу для ўдзелу ў сходзе, будуць затрымлівацца. Акрамя таго, калі арганізатары не адмовяцца ад заяўленага мерапрыемства, будуць узбуджаны справы па акцыях, што прайшлі 26 красавіка на праспекце Ф.Скарыны (адной з іх, як вядома, было шэсце ад плошчы Незалежнасці да ГУМа, арганізаванае прадстаўнікамі КХП-БНФ; тады ніхто з удзельнікаў і арганізатараў не быў затрыманы).

18 мая ў Палацы Рэспублікі, які размешчаны якраз на Кастрычніцкай плошчы, будзе праходзіць другі Усебеларускі сход, ініцыіруемы ўладамі.

**БелаПАН**

# Не маеце рацыі, спадар Трусаў

## *Эсэ «Рэзервацыя Беларусь» як люстэрка нашай рэчаіснасці*

*Не часта здараецца, каб я прачытала газетны артыкул тры ці чатыры разы запар, як гэта было з эсэ Сакрата Яновіча «Рэзервацыя Беларусь». Яно мяне проста захапіла. Не магу казаць, што спадабалася. Ці можа спадабацца боль ці горкая праўда? І раптам чытаю адкрыты ліст старшыні ТБМ А.Трусава: «Сакрат, ты не маеш рацыі...» Мяне здзівіў як сам гэты ліст, так і тое, што НАША СВАБОДА яго надрукавала.*

У лісце Сакрата Яновіча ўсё праўда, але, як кажуць, «праўда вочы коле». Праўда, што Беларусь пераўтварылася ў нейкі «пасавецкі сметнік», «унікальную рэзервацыю», куды зляцеліся з іншых рэспублік былога Савецкага Саюза выкінутыя адусюль рускамоўныя кадры, якія ненавідзяць беларушчыну, ненавідзяць беларускую нацыянальную культуру, гісторыю, мову, ненавідзяць людзей, «занепакоеных уласным лёсам і ўласнай нацыянальнай годнасцю». Праўда, што для ўладаў і іх верных псоў беларуская мова стала мовай фашыстаў, дыверсантаў і шпіёнаў. Ці спадар Трусаў не ведае фактаў, калі маладзёнаў збівалі толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску?

Спадар Яновіч правільна кажа, што «гаворка ідзе не пра агульнае веданне мовы, бо яно ў пераважнай частцы грамадства існуе. Гаворка ідзе пра іншае, што беларушчына выстаўленая ў раздзел мёртвых моваў, не патрэбных у будзённым жыцці».

Правільна, што цяперашнія ўлады «затапталі беларускую нацыю». Правільна, што ў Мінску «ненавідзяць беларускую мову».

Я не рабіла, як сп.Трусаў аніякіх эксперыментаў, але прывяду два прыклады.

Еду неяк у тралейбусе, ды кіроўца (рэдкі факт) аб'яўляе прыпынкі і, наогул, размаўляе з пасажырамі на беларускай мове. Кажу суседцы, вясковага выгляду і сталага ўзросту жанчыне: «Як прыемна чуць беларускую мову, якая яна прыгожая». І чую ў адказ: «Я не люблю беларускую мову, а мае дзеці і ўнукі яе наогул ненавідзяць». А скуль вы – пытаюся, напэўна з Расіі? «Не, – адказвае яна, – з беларускай вёскі». Вось да чаго давялі народ. Ці другі факт. Аднойчы на вечарыне чула выступ пана Крыжаноўскага, які хацеў, мусіць жартам, балатавацца на пасаду прэзідэнта Беларусі. Як ён здзекваўся з беларускай мовы: «Спадары ўсюды ператварылі інстытуты ў Акадэміі». Было прыкра глядзець, з якой пагардай ён ставіцца да гледачоў. І гэта прадстаўнік беларускай(?) культуры.

І мае рацыю Сакрат Яновіч, калі піша, што зараз становішча горшае, чым у БССР. Амаль не чуваць беларускай мовы па радыё і па тэлевізары. Усе нарады, сходы, урачыстасці праходзяць на расійскай мове, дакументацыя, шыльды ў дзяржаўных і недзяржаўных установах таксама на расійскай мове. І чым ганарыцца сп.Трусаў? Бачыце, у Мінску дзейнічае аж 5 (пяць!) беларускіх школак. Вось калі б ён напісаў, што ў Пецярбургу ці ў Маскве, або ў Новасібірску, дзе пражывае шмат беларусаў, ёсць некалькі (5–6) беларускіх школак, ва універсітэтах ёсць беларускія кафедры, вось тады можна было б ганарыцца.

А тое, што ў трох з мноства спецыяльных і вышэйшых установаў карыстаюцца беларускай мовай, таксама не падстава для гонару. І не відаць нам ні другога прэзідэнта, ні беларускай ВНУ.

Мае дзеці аддалі ўнукаў у беларускую гімназію. Я была вельмі задаволеная. Вучаць там беларускай мове добра. Але ж настаўнікі і дырэктар гімназіі размаўляюць паміж сабой на рускай мове, сходы і ўрачыстасці праходзяць па-расійску, дзеткі вітаюць настаўнікаў і выступаюць на вечарынах на рускай мове. Вось вам і беларуская гімназія! Не пішу нумар гімназіі, каб не нашкодзіць унуку. Я люблю сваю нявестку, але яна аднойчы мне сказала, што я ім жыць замінаю з сваімі поглядамі. «Ну, што ж, – кажу, – адрачыцеся ад мяне. А я ад сваіх поглядаў не адракуся!»

Не думайце, спадары, што я такая разумная, я такая, як усе. Расла ў рускамоўнай сям'і, вучылася ў рускай школе, дзеці таксама вучыліся ў рускіх школах, ды беларускіх тады і не было, але я ўсё-такі змагла зразумець, як піша Сакрат Яновіч, што нельга быць «стрававальным трактам».

Мае рацыю Сакрат Яновіч і ў тым, што «расіяне ніколі не прызнавалі беларускай нацыі, ды і шмат беларусаў не адчуваюць сябе беларусамі, калі дазваляюць Вялікаму Хаму лічыць сябе дзесяцімільённым Нікім, дазваляюць здзеквацца над роднай мовай, культурай, фальсіфікаваць сваю гісторыю». У нас не было Шаляпіна, дык быў Суніцкі-Забэйда, не было Рэпіна, дык была цудоўная школа мастакоў у Віцебску і г.д. Хто хоча ведаць, той ведае. Артыкул А.Трусава лье ваду на млын цяперашняй улады. І чаго ён так усхваляваўся? Што няма добрага плёну ад існавання ТБМ? Калі б у Расіі было «Таварыства российской словесности», яно б займалася больш глыбокім вывучэннем расійскай мовы. А наша ТБМ змагаецца, каб «не ўмерла» наша мова, як калісьці казаў Ф.Багушэвіч.

А Сакрат ёсць Сакрат, ён заўсёды мае рацыю.

**Інэса КАСЦЮК,**
**ветэран працы,**
**Мінск**

# Кот Клаўдзіі Львоўны

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.5*

— Нічога, — падціснула губы Каця, адразу заўважыўшы, як паглядвае на Клаўдзію Львоўну Кіраўнік Дзяржавы, былы яе палюбоўнік. — Мы і за спінамі сваё ўбачым. Мы за катоў замуж не хадзілі.

Во так яно па-нашаму! Сама Клаўдзію Львоўну з катом сасватала — і сама яе ў тым звінавáціла!

Убачыў Кацю Цімашук і Кіраўнік Дзяржавы; кіўком пальца падазваў да сябе Стася Цянькоўскага і незадаволена нешта сказаў; Стась паслухаў яго і подбегам падкруціўся да ахоўнікаў; два ахоўнікі моўчкі рушылі да Каці, узялі яе за рукі ды ногі, паднялі і выкінулі ў вакно.

Артур не страціў да Каці ранейшых сімпатый і падумаў, што лепш бы выкінулі яго. Для яго такі палёт — хоць бы што, а для былой ягонай гаспадыні — наўрад ці... Хоць тут і другі паверх, але ж мармуровыя прыступкі...

Калі чарга адорваць КДБ дайшла да Клаўдзіі Львоўны, нікога з людзей, апроч яе, у банкетнай зале ўжо не заставалася. Толькі кот Артур, Кіраўнік Дзяржавы, Стась Цянькоўскі, ахоўнікі ды нікому не бачны, нібы з паветра злеплены, Леў Міронавіч з імяннай зброяй у руках.

— А што з табой за кот мудакаваты? — спытаўся Кіраўнік Дзяржавы. — Здаецца, недзе бачыў я яго...

— Значыць, гэта лёс, — уздыхнула і развітальна пагладзіла Артура Клаўдзія Львоўна. — Значыць, вы пра яго думалі, калі вам так здаецца. Значыць, вы яго палюбіце. Гэта вам падарунак мой.

— Ты выйграла конкурс! — абвясціў Кіраўнік Дзяржавы. — І табе прыз. А прыз — гэта я. Цяміш?

— Так, — сарамліва апусціла вочы Клаўдзія Львоўна. — Мне Каця Цімашук расказвала.

— Якая Каця? — злосна не зразумеў Кіраўнік Дзяржавы. — Няма і не было ніякай Каці! Ці хочаш злятаць паглядзець?

— Не, — таропка адмовілася Клаўдзія Львоўна. — Хіба што Артур...

— Артур дык Артур, — згадзіўся КДБ, якому было ўсё адно, каго выкідваць, абы было каго. — Кажы, кацяра, сваё апошняе жаданне! Чарку і скварку хочаш?

— Дзякуй, перад палётамі не п'ю, — з цырымонным рэверансам падзякаваў Артур і ступіў бліжэй да Кіраўніка Дзяржавы, на што ахова на гэты раз неяк дэманстратыўна не звярнула ўвагі. — Хіба што з вамі.

Нікому не бачны Леў Міронавіч выпіў чарку, закусіў скваркай і махнуў рукой нікому не бачным партызанам, каб спускаліся да стала. Адзін партызан павіс на люстры на руках, другі — на ягоных нагах, і так яны ўсе, роты чатыры, адзін за адным ланцужком і спусціліся. Толькі той першы, што на руках вісеў, падцягнуўся і з кулямётам застаўся на люстры.

— Як пераможца конкурсу маеш прыз і застаешся сёння са мной, — пляснуў Клаўдзію Львоўну па хвасце Кіраўнік Дзяржавы.

— Бі! — крыкнуў Леў Міронавіч. — Двайнік!

— Пераварот! Здрада! Арыштаваць! — закруціўся верталётам Стась Цянькоўскі. Тыя ж ахоўнікі, якія выкінулі ў акно Кацю Цімашук, злавілі яго за рукі ды ногі і падкінулі пад столь. Стась ухапіўся за люстру і думаў адвісецца, пакуль усё скончыцца. Партызан на люстры з прададзенага Стасем кулямёта трах-тах-тах па ім!.. А Стасю з таго нічога. Тады партызан дастаў з кішэні рагатку са сталёвым прабоем ды пapляваў на той прабой.

— Бі! — у адзін голас, як «ура» на парадзе, грымнулі партызаны — і Артур з перапуду лупянуў Кіраўніка Дзяржавы пыльным мяшком.

Пыл падняўся несусветны... А калі ён развеяўся — на месцы Кіраўніка Дзяржавы пусты мяшок ляжаў. Стась Цянькоўскі, які кулямёт з гнілымі патронамі партызанам прадаў і праз тое жывы застаўся, падпоўз да мяшка, памацаў, прыклаўся вухам, нарэшце зазірнуў у мяшок.

Бегалі, шукалі і ў полі, і ў лесе, але КДБ нідзе не аказалася. Усе, хоць і ў пыле, знайшліся на сваіх месцах, а ён не знайшоўся. І нічога ад яго, апроч пылу, не засталося.

Начальнік аховы, генерал СБ КДБ, Службы Бяспекі Кіраўніка Дзяржавы, атросся ад пылу і патлумачыў:

— Анігіляцыя.

Ніхто генерала не зразумеў, ды й сам генерал зразумеў сябе не адразу. Таму адчуў неабходнасць датлумачыць.

— Ён і так быў пыльным мяшком стукнуты, у другі раз нельга было... Можна было хоць пнём, хоць калодай, але не мяшком... Матэрыя сутыкнулася з антыматэрыяй, пасля гэтага нічога не засталося.

Усе слухалі генерала і азіраліся па баках. Генерал зняў фуражку, здзьмуў апошнюю пылінку з цэшкі, зноў надзеў фуражку, пранізліва глянуў на ўсіх.

— А-ні-гі-ля-цы-я. Дзіўна, што застаўся пыл.

Сіберным скразняком пацягнула ад пранізлівага пагляду генерала — і тут ужо нават недаверкі ўцямілі, што ў выніку аднаму генералу вядомай анігіляцыі Кіраўнік Дзяржавы знік.

— А што ён зрабіў для народа, каб застацца? — спачатку тупнуўшы па мяшку, а пасля і скочыўшы на яго абедзвюма нагамі, першым спытаўся раптам Стась Цянькоўскі.

— Леў Міронавіч, што далей рабіць? — дзелавіта запытаўся генерал. — Некага ж трэба народу час ад часу паказваць... Ці кінем гэтую цяганіну з двайнікамі.

Леў Міронавіч уздыхнуў цяжка і скрушна.

— Збіраліся мы на палітбюро... Думалі, гадалі... Вырашылі, што не саспеў наш народ для выбараў. Так што майструйце, хлопцы, замену. Толькі талковага двайніка давайце, каб хоць тое разумеў, хто сапраўды ён, а хто сапраўды мы.

— А з каго майстраваць? — спытаў генерал і чамусьці затрымаў позірк на Стасе Цянькоўскім.

— Сапраўды, з каго? — на цырлы прыўзняўся на мяшку Стась, які паціраў бакі і ўсім сваім выглядам паказваў, што цалкам цяпер на баку генерала і Льва Міронавіча.

— Ну, не з цябе, канечне, — скрывіўся на ягоны круглямаслены твар Леў Міронавіч. І кіўнуў начальніку аховы ў бок Артура. — А што, калі з яго, га, генерал?.. Глядзі, які падобны... Вусаты, лысаваты.

— Прыціскае, дык можна і з яго, — абыякава пацепнуў плячыма генерал — і бац-бац, бац-бац, бац, бац, бац, бац: — Гатовы.

Перад усімі, прыціскаючы руку да сэрца, стаяў нанова злеплены Кіраўнік Дзяржавы, толькі апрануты трохі не так, як папярэдні, і з хвастом.

— Пераапрануць мы яго пераапранем, — не зусім задаволена сказаў Леў Міронавіч. — А хвост?

— Вінаваты, — пачырванеў генерал. — Ніколі з катоў не ляпіў. — І ўзяў са стала нож.

Артур надзьмуўся, вочы вылупіў, вусы нашчаценіў і гаркнуў на генерала, ткнуўшы ў яго пальцам:

— Усё пра ўсіх ведаю!.. І хто тут СБ, і хто там ФСБ!..Твая служба — не хвасты катам абразаць! Твая служба — людзей шукаць, якія ў Дзяржаве маёй прападаюць! Бандытаў лавіць, што распраўляюцца з імі! А ты сам за маёй спінай з усімі распраўляешся?!. У міністры адпраўлю! Галаву скручу.

Ух, як страшна стала!.. Але не ўсім.

— А ён выпадкам не хворы? — спытаў Леў Міронавіч, са здзіўленнем убачыўшы службовую радасць на чырвоным твары генерала. — Не з пухлінай лобавай часткі мазгоў? Можа, адменім яго, хвастатага.

— Канстытуцыю мне! — крыкнуў Артур, і Стась Цянькоўскі хуценька дастаў з кішэні заўжды і да ўсяго гатовую Канстытуцыю. — Перапісвай! — загадаў яму новы Кіраўнік Дзяржавы. — ***Гербам Дзяржавы з'яўляецца хвост сярэдняй даўжыні сярэдняй пушыстасці***.

Стась палічыў не лішнім удакладніць:

— Кацінай?

— А то сабачы! — падняў хвост Артур. — ***Грамадзяне Дзяржавы носяць герб*** па святах, а Кіраўнік Дзяржавы — штодзённа.

— А каты? — спытала Клаўдзія Львоўна, якая яшчэ не забылася, за кім зусім нядаўна была замужам.

Артур крутануў хвастом:

— А хто мне, Клава, каты? І што мне да катоў? Я пра Дзяржаву думаю. Калі пра Дзяржаву думаеш, пра катоў думаць не выпадае.

Клаўдзія Львоўна ўспомніла, што муж яе быў хоць і нацыянал-дэмакратам, але ўсё ж дэмакратам, і яе агарнула роспач.

— Як ты змяніўся, Артур! Толькі хвост ад цябе і застаўся... І той дыктатарскі нейкі.

— Дык усім жа катам хвасты адразаць давядзецца, — нібыта сумняваючыся, паглядзеў на генерала Леў Міронавіч. — І на святы прывязваць...

— Адрэжам, прывяжам, гэта не праблема, — адклаў нож і падняў чарку генерал, якому новы Кіраўнік Дзяржавы і з хвастом глянуўся, бо ва ўсім астатнім яшчэ больш нагадваў былога, чым сам былы. — Таварышы партызаны!.. Дзякую вам за дапамогу ў правядзенні чарговай сакрэтнай аперацыі. З вашага боку ўдзел у гэтай аперацыі, як кажуць, магіла. Жадаю вам здароўя, калі яно ў вашым выпадку мае нейкае значэнне, і спадзяюся на далейшае супрацоўніцтва. У гэтай краіне толькі на вас ды нас уся надзея...

Партызаны тост генерала зразумелі, чокнуліся з ахоўнікамі, дружна выпілі і закусілі.

Генерал, нікога ўжо не запрашаючы, наліў сабе яшчэ кварту, выпіў, гэкнуў, захмялеў, бухнуўся на калені і папрасіўся:

— Бацька, родны, даруй!..

— Бог даруе, — усклаў яму руку на галаву новы Кіраўнік Дзяржавы — і ў вокнах рэзідэнцыі пацямнела.

— Ты мяне са школьных падручнікаў выкінеш, Артур? — уперыўся ў цемнату і з партыйнай прынцыповасцю, але без асаблівай надзеі спытаў Леў Міронавіч.

— Выкіну, — паабяцаў Артур і паклаў руку на сэрца. — Нават пылу ад вас не застанецца, клянуся анігіляцыяй.

— Ён цяпер Кіраўнік, а я цяпер хто? — капрызна спыталася Клаўдзія Львоўна. — Ні ўдава, ні жонка?.. Мне што рабіць, у вёску ехаць?

Леў Міронавіч з тугой паглядзеў на генерала СБ новага КДБ.

— Скажы ты мне па дружбе, генерал: дачка яна мая ці ваша агентка?

— Агентка, — па дружбе махнуў рукой генерал, які стаў генералам за тое, што некалі зліквідаваў Льва Міронавіча ў аўтакатастрофе, і таму адносіўся да яго не кепска. — Але і дачка таксама, адно другому не замінае... — Тут генерал трохі падумаў.

— Тады ў вёску, Клаванька, ад бяды далей, — абняў дачку-агентку Леў Міронавіч. — Грады праполем, карову падоім, я табе байку пра Ката ў мяшку раскажу... Не будзем замінаць Кіраўніку.

***«Указ нумар раз!*** — пачулі яны, выходзячы з банкетнай залы, дзе Артур застаўся адразу дыктаваць, а Стась Цянькоўскі адразу запісваць. — ***Прычынай сацыяльна-палітычнай напружанасці ў грамадстве з'яўляецца неразвіты хвасцец, які несправядліва называюць атавізмам папярэдняй сістэмы. Міністэрствам культуры, сельскай гаспадаркі і аховы здароўя развіць у грамадзян хвастцы да хвастоў сярэдняй даўжыні і сярэдняй пушыстасці...»***

— А міністэрства культуры тут прычым? — азірнулася Клаўдзія Львоўна, але Леў Міронавіч не даў ёй спыніцца, па-бацькоўску мякка і па-цэкоўску настойліва падпіхнуўшы ў хвасцец.

Ахоўнікі на выхадзе, пакручваючы хвастамі, Льву Міронавічу казырнулі.

— Усё служыш? — спытаў Леў Міронавіч аднаго з іх, які быў не толькі з хвастом, але нібыта і з рожкамі.

— Служу! — віхлянуў азадкам і па-блазенску выцягнуўся ў струнку ахоўнік. — Вам да апошняга — і ўсім да апошняга!

— Ну, служы, — развітаўся з ім Леў Міронавіч. — За генералам прыглядай, расслабляецца... Тваім туды што-небудзь перадаць?

— Якім маім, куды туды? — зрабіў выгляд, што здзівіўся, блазен-ахоўнік. — Мае ўсе тутака, апроч аднаго.

— Я з Іраку! Я з ідэяй! — размахваючы папкаю ў скуранoй вокладцы з залатым цісненнем «На подпіс», запыхана ўбег у рэзідэнцыю і нейкім бакавым, аднаму яму вядомым ходам скразануў наверх нехта маленькі.

— Глянь ты, зноў паспеў, хоць і спазніўся! — цяпер сапраўды ўжо здзівіўся ахоўнік з рожкамі. І, высунуўшы язык, скорчыў морду ўслед кудлаценькаму. —

Бэ-э-э!.. Без цябе-е-е тваё кіно пракруцілі!

— Раствaю дзівізію!.. — ажно пабялеў ад разгубленасці той самы ахоўнік, што гуляўся з аўтаматам, сам па сабе бялявы, падобны на абарыгена. — І не заўважыў ніхто, што няма тут нашага таварыша палкоўніка! А казалі – незаменны...

— Ты тут пагакай! Аўтамат адбяру — і зноў за гачку возьмешся! — беспрычынна, з біялагічнай нейкай злосцю накінуўся на абарыгена рагасценькі блазен. І лісліва зазірнуў Льву Міронавічу ў вочы. — А кудлатага, можа, дагнаць і з лесвіцы спусціць, пакуль ён з новым Кіраўніком палітзаняткі не правёў? Ці ў Ірак паслом турнуць, каб не мільгацеў і не пстрыкаў?

— Не, палкоўнікаў сказана не чапаць, — выходзячы ў расчыненыя дзверы, безвыходна ўздыхнуў Леў Міронавіч. — Асабліва гэтага... Ніхто не ведае, як і для чаго ён прыдуманы, але без яго тут, відаць, і пры канцы свету не абыдзецца...

На двары было цёпла, ціха і хораша. Тое, што выраблялася ў рэзідэнцыі, прыродзе не замінала.

— Мяў!.. Мяў!.. Мя-я-ў!.. — пранізліва разнеслася над рэзідэнцыяй, і, задраўшы галовы, яны ўбачылі, як два каты раздзіраюць Сцяг Дзяржавы і вешаюць замест яго шэры мяшок, у якім Клаўдзія Львоўна несла Артура.

— Мяшок — гэта ідэя... Не спаў палкоўнік у Іраку, — паморшчыўся ад кацінага крыку Леў Міронавіч. — З мяшка і сімвал, і карысць, народ зразумее...

Клаўдзія Львоўна паклала яму галаву на плячо, пагладзілася, як кошка, і спытала:

— А праўда, тата, каты на філосафаў падобныя?..

Леў Міронавіч глыбінна задумаўся, паўспамінаў пра нешта і пацепнуў вольным плячом.

— Не ведаю, Клаванька... Круціўся каля мяне адзін філосаф, але ці быў ён на ката падобны — не помню... А болей пры мне філосафаў не было.

Сцямнелыя вокны рэзідэнцыі раптам запаліліся, амаль што ўсе разам расчыніліся, і з іх сторч галавою пачалі вылятаць людзі.

— Забіваюць!.. — сцялася Клаўдзія Львоўна.

— Ды нікога не забіваюць, — супакоіў яе Леў Міронавіч. — Самі маглі ўсё вырашыць, але сядзелі, баяліся — і дачакаліся... Змена кадраў.

«Ба-бах!» – з'явіўся ў адным з вокнаў генерал з пісталетам, і па ягоным стрэле-сігнале расквітнеў над сталіцай Дзяржавы святочны салют. Рознакаляровыя агні ўспыхвалі і гаслі, успыхвалі і гаслі.

— А ўсё ж прыгожа... — муркнула на бацькавым плячы Клаўдзія Львоўна, утаропіўшы ў неба вочы, у якіх слязінкамі бліскалі зялёныя і жоўтыя, ружовыя і блакітныя, чырвоныя і белыя агеньчыкі... І нехта з купкі народу, які тоўкся без толку праз дарогу ад рэзідэнцыі, недаўменна паціраючы хвастцы і лыпаючы на шэры мяшок, што лунаў у агністых нябёсах, суцяшаўся:

«Э, такой бяды... Дзірку ў портках ззаду прарэзаць — і можна жыць. А дух выпускаць дык нават лацвей будзе...»

**Красавік, кастрычнік 2000 г.,**
**Вуасары**

***Заўвага аўтара:*** *Персанажы мышынай гісторыі, цалкам выдуманай у Лапландыі, дзе мышы не водзяцца з прычыны снегу і халадоў, а каты — з прычыны адсутнасці мышэй, не маюць ніякага дачынення да рэальных людзей, жывых і нябожчыкаў, якія ў персанажах гэтых выпадкова могуць пазнаць саміх сябе.*



# На путях апостола Павла

## *Новый шаг папы римского к примирению с православной церковью*

В минувшую пятницу началось 93-е паломничество Иоанна Павла II. На борту авиалайнера компании «Алиталия» папа отбыл из Рима. Понтифик посетит Грецию, Сирию и Мальту по следам св. Павла. В Греции он хочет подняться на афинский акрополь, на котором святой Павел обратился с проповедью к язычникам. Символичной станет сирийская часть паломничества Иоанна Павла II. Он примет участие в экуменической встрече в греко-православном соборе в Дамаске, отслужит мессу на стадионе, проведет беседу с главами различных конфессий. Но главное событие — посещение крупнейшей мечети в Дамаске — первое посещение мусульманского храма главой римско-католической церкви. Во вторник папа прибудет на остров Мальту, возле которого потерпел крушение корабль, на котором апостол Павел плыл в Рим.

Афинский этап паломничества – Афины – был наиболее сложным для подготовки, поскольку против приезда папы возражала Греческая православная церковь. В 11-миллионной Греции живут около 200 тысяч католиков. Однако официальной религией в стране является православие. Два года назад Иоанн Павел II собирался посетить Грецию, но вынужден был отказаться из-за волны протестов, организованных православными фундаменталистами. Лишь вмешательство президента Греции Костиса Стефанопулоса и придание поездке статуса государственного визита позволило его организовать. Программа пребывания Иоанна Павла II была существенно ограничена: пришлось отказаться от проведения массового богослужения для католиков, на котором ожидалось присутствие 250 тысяч греков и иностранцев.

В афинском аэропорту папу встречал министр иностранных дел Греции Георгиос Папандреу и иерархи Греческой православной церкви. Папа, которому 18 мая исполнится 81 год, появившись у двери самолета, благословил собравшихся и самостоятельно спустился по трапу. Иоанн Павел II стал первым понтификом, ступившим на греческую землю после раскола церквей в 1054 году. Дети преподнесли ему цветы и оливковую ветвь — символ мира. Папа все же не изменил своей традиции, которой он держится по приезде в каждую страну, — поцеловал ее землю. По словам очевидцев, в аэропорту монахиня поднесла ему чашу с землей, взятой в одном из православных греческих монастырей, и папа ее поцеловал. Однако эта сцена не была показана по греческому телевидению, которое вело трансляцию приезда главы римско-католической церкви, поскольку против поцелуя местной земли возражала Греческая православная церковь. На пути следования Иоанна Павла II в президентский дворец на официальную церемонию встречи на улицах столицы стояли 7 тысяч полицейских. Приходские священники в это время устроили в 160 монастырях скорбные колокольные звоны.



Враждебное отношение к Риму насчитывает в Восточной Европе уже тысячу лет и восходит к церковному расколу 1054 года.

Архиепископ Афинский и всей Эллады Христодул представил папе римскому список «оскорблений», нанесенных греческой православной церкви за этот без малого тысячелетний срок. Иоанн Павел II попросил прощения за католиков, которые грешили по отношению к православным. Понтифик обратился к Богу с просьбой простить грехи, допущенные с тех пор, как две церкви разделились. Папа назвал разграбление Константинополя крестоносцами в 1204 году драмой, которая наполняет католиков «глубоким сожалением».

Взятие Константинополя стало основным событием четвертого крестового похода (1202-1204). Активную роль сыграла в этом торговая республика Венеция. Ее правительство сумело убедить предводителей рыцарских отрядов изменить цель похода. К тому же крестоносцы получили благословение организатора похода папы Иннокентия III. 12 апреля 1204 года они взяли штурмом столицу Византии. В пожарах сгорели богатейшие библиотеки, исчезли памятники античного искусства. Крестоносцы и венецианцы вывезли из Константинополя все ценности. Позолоченная квадрига, творение древнегреческого скульптора Лисиппа, украшавшая константинопольский ипподром, до сего дня возвышается над главным порталом венецианского собора св. Марка.

Извинения папы открывают возможность широкого диалога двух ветвей христианства. Можно сказать, что Иоанн Павел II раскрыл объятия навстречу православным и показал высокую силу духа.

К сожалению, патриарх московский, глава Русской православной церкви, не нашел в душе столько смелости и стремления к миру. Алексий II сдержанно оценил заявление папы римского. «Сегодня это (прощение) — декларация и надо посмотреть, как это прощение будет проявляться на деле», — заявил Алексий II.

Что подразумевает под «делами» московский патриарх, понять трудно. В сущности, папа подал пример, которому придется следовать и патриарху. Русская православная церковь также причинила много зла католикам. Во всяком случае, на территории Беларуси. Тут по сегодняшний день Русская православная церковь пользуется отнятыми у католиков зданиями костелов.

В субботу самолет с Иоанном Павлом II приземлился в аэропорту Дамаска. Из 17 миллионов жителей Сирии около 2 миллионов принадлежат к разным христианским сектам и церквям. В воскресенье прошла торжественная месса на одном из столичных стадионов. Иоанн Павел II стал первым верховным иерархом католической церкви, который войдет в мусульманский храм. Он посетит построенную в VIII веке мечеть Умайад в центре Дамаска, где сохраняются останки Иоанна Крестителя, который в исламе почитается как пророк Яхья. Папа римский на пресс-конференции, проводившейся совместно с президентом Сирии Башаром Ассадом, призвал в Дамаске к прекращению насилия на Ближнем Востоке и воцарению там «истинного мира». По его словам, «настало время вернуться к принципам международного права, которые запрещают насильственное отчуждение территорий, вспомнить о праве народа на самоопределение».

93-е паломничество папы римского приобретает особый интерес в связи с предстоящим его визитом в Украину, который встречает сопротивление со стороны Русской православной церкви. В первую очередь это связано с претензиями РПЦ на Украину как на свою каноническую территорию. Содержательно такие взгляды выявила недавняя презентация в Киеве нового мирянского объединения, названного «Путь православных» имени святого равноапостольного князя Владимира. В первых строках обращения «Пути православных» отмечается, что «государство сильнее лишь тогда, когда будет процветать традиционное православие». Предлагается строить «наш общий вселенский православный дом». В принципе ничего неожиданного в таком провозглашаемом курсе. После распада СССР в бывших республиках действуют силы, заинтересованные в восстановлении империи. На презентации звучали откровенные речи православных фундаменталистов. Например: «Наш духовный центр — в Москве, и будьте любезны, господа Галичина, отнеситесь с уважением к нашим требованиям! Нас 35 миллионов, и мы заставим себя уважать!»

Владыка Августин отметил, что УПЦ Московского патриархата является самой большой православной церковью Украины, и поэтому именно ее надо спрашивать, разрешает ли она приехать римскому понтифику.

Однако, президент Украины Л.Кучма не стал испрашивать разрешения, и папа римский получил приглашение прибыть с визитом как глава государства Ватикан. Извинения за католиков, которые грешили против православных, совершенно меняет фон визита. Иерархам Русской православной церкви либо придется высказать христианскую любовь, либо признаться в неискоренимой ненависти к католицизму. В преддверии своего посещения Украины Иоанн Павел II подписал декрет, признающий христианское служение 52 человек, более половины из которых было убито во время гонений на униатскую церковь на Украине в период с 1935 по 1973 год. Поскольку декрет подтверждает их мученичество, чудотворение или выдающиеся заслуги перед церковью, то тем самым открывается возможность сперва признания их блаженными, а затем и святыми.

**Петр КЛИМКОВИЧ**

КРЫМІНАЛ

## Москва догоняет ЮАР и Америку

Москва лидирует среди всех европейских столиц по числу убийств людей, а Хельсинки занимает последнее место по этому показателю.

Такой вывод содержится в докладе министерства внутренних дел Великобритании, опубликованном в пятницу в Лондоне. Согласно этому документу, в российской столице приходятся 18,2 убийства на каждые 100 тысяч жителей, тогда как в Хельсинки – 2,16. Этот показатель для Парижа равен 2,21, Лондона – 2,36, Будапешта – 2,98, Мадрида – 3,12, Копенгагена – 3,43 и Амстердама – 5,37. Мировым лидером в этом виде преступлений стал Вашингтон с 50,82 убитых людей на каждые 100 тыс. жителей американской столицы. На втором месте – Претория (ЮАР) – 27,47, на третьем – Москва. Что касается численности заключенных, то среди европейских стран пальма первенства принадлежит Португалии – 142 человек на каждые 100 тысяч жителей. В среднем по странам Европейского Союза этот показатель составляет 87 на каждые 100 тысяч человек.



Фота IREX/ProMedia

## Астрологический прогноз

### от Вероники Кудрявцевой на 7 - 13 мая

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**Овен.** Холерический темперамент уступает место рассудительности и мягкой сентиментальности. Затянувшееся недоразумение или конфликт с властями смягчается во второй половине недели урегулированием вопросов, и не последнюю роль могут сыграть чувства. В этот период включите в свои советники женщину и доверьтесь ее интуиции. Надо отдать должное окружению — вы сейчас командный игрок.



**Телец.** Несмотря на несколько тягостное настроение по поводу состояния кошелька, вы способны почувствовать тыл за спиной. Вероятно, умиротворение жизнью диктуется не только деньгами. Ходят слухи о возможном повышении в должности, во всяком случае — вам есть чем гордиться в профессиональной сфере. Однако неплохо бы пока побыть в тени, вести себя поскромнее — начальство оценит.



**Близнецы.** Откуда ни возьмись вы обнаруживаете среди старых знакомых тех, кто готов за вас заступиться в трудной борьбе с «доброжелателями» или конфликте с супругом. Накал страстей падает, решение принято, и вы готовы примириться с вырисовывающимся положением дел. Во второй половине недели не упустите возможность великолепной творческой работы, может быть — из-за границы, поскольку отдача порадует.



**Рак.** Вас штормит — или удается сублимировать энергию в бешеную работоспособность, или она идет непосредственно по назначению, в область интимных отношений. Однако хватает разного рода засад, вероятны даже слежки или столкновение с контролирующими инстанциями. Неплохо бы побыть лесником или монахом-отшельником во второй половине недели — отдохнуть от катаклизмов, подлечиться или написать несколько стихов.



**Лев.** Неудовлетворение жизнью продолжается и грозит своеобразным бунтом — хочется каких-то радостей в жизни, а получается как всегда. А еще терзают сомнения — любит вас кто-нибудь или нет, в конце концов. И зачем тогда дети? Не исключено давление облеченных властью людей, какой-то показательный процесс. Но ситуация в значительной степени смягчается благодаря вашим целенаправленным усилиям, не сдавайтесь.



**Дева.** Вы расставляете все точки над і в личных взаимоотношениях, успешно способны решить проблемы детей во второй половине недели. Причем независимо от результата вы попытаетесь извлечь самое ценное из сложившихся обстоятельств и даже проявить милосердие к ближним. Среди сослуживцев обозначается человек, который искренне желает вам добра. Хорошо, если это окажется женщина.



**Весы.** Не лучшее время для самоутверждения и дальних поездок, ваш авторитет даже несколько пострадает — может сорваться получение должности или больших денег. Но во второй половине недели складывается ситуация «невесты на выданьи». Ухаживания, чинные романтические встречи и художественные выставки. Вот когда вы сможете взять реванш, весьма полезными будут показательные выступления.



**Скорпион.** Вам бы ночь простоять да день продержаться в первой половине недели, когда разбита последняя копилка. Зато с четверга вы сможете расслабиться, пережить массу приятных минут в уютной обстановке с любимым человеком. Кто-то завершает дизайн квартиры или процесс ее купли-продажи с чувством удовлетворения сложившейся ситуацией. В это время гости в доме приносят радость.



**Стрелец.** Вы все еще висите на волоске на лестнице социальной иерархии. Однако после праздников — «шерше ля фам», женщина способна смягчить положение. Намечается прилив нежных чувств и поэтическое настроение во второй половине недели. Вас тепло принимают в разных местах. Имеет смысл этим воспользоваться для проведения PR-кампаний и важных встреч.



**Козерог.** В первой половине недели проблематично решать важные вопросы, поскольку мешают конкретные люди, ведут тайную деятельность, обговаривают каждый шаг. Важно никого не успеть спровоцировать на юридический процесс. Для кого-то окажется приятной неожиданностью получить спонсорскую поддержку во второй половине недели за грамотное поведение и человеческое участие в делах ближних.



**Водолей.** Дети подчас просто неуправляемы, и здесь не поможет никакой ваш воспитательный процесс. Влияние способен оказать лишь родственник-ровесник во второй половине недели. Люди творческих профессий и те, кого ноги кормят, сражаются за место под солнцем. Для этого имеет смысл переговорить в понедельник с человеком, способным оказать тайную поддержку.



**Рыбы.** Большую роль играет место жительства и отношения с домашними. Разговор с отцом стабилизирует обстановку. Кому-то приходится активно искать себе прибежище, причем небезуспешно — во второй половине недели. Профессиональные трудности во многом не зависят от вас, существует подверженность каким-то массовым явлениям. Однако вы и здесь способны выкрутиться, могут найтись и лишние финансы.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1706 Нумар падпісаны ў друк 6/05/2001 (15:00) Наклад – 9.170